● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

9 снежня 1998 г. серада, № 238 (23589)




# ЗВЯЗДА

## Абакралі «Звязду» на 1,6 мільярда рублёў

**Не спаў у шапку ў нядзелю невядомы, якому ўдалося залезці ў «засекі» калгаса-камбіната «Звязда» і абчысціць іх. Пакуль злачынцу адшукаць не ўдалося, аднак надзея застаецца...**

А патэлефанавалі ў Віцебскі РАУС з калгаса ў панядзелак. Як аказалася, злодзей дзейнічаў удзень: перапілаваў дужку навяснога замка і такім чынам пранік у складское памяшканне калгаса-камбіната. Пажывіцца было чым: невядомы забраў з сабой 251 норкавую шкурку. Як падлічылі спецыялісты, агульны кошт выкрадзенага пацягне на 1,6 мільярда рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Затрымкі заробкаў узрастаюць

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, за апошні месяц запазычанасць па заробках рабочым і служачым краіны ўзрасла прыкладна ў 1,2 раза. На пачатак снежня яна наблізілася да «рэкорднай» адзнакі і дасягнула 1 трлн. 523,1 млрд. рублёў, што складае 9,2 працэнта ад месячнага фонду зарплаты. Сярод рэгіёнаў сумнае лідэрства па неплацяжах трымаюць Гомельская (13 працэнтаў ад ФЗП) і Віцебская (12,4 працэнта) вобласці.**

Больш-менш стабільнай застаецца сітуацыя з выплатай заробкаў у бюджэтнай сферы. Разам з тым справы ў асноўных галінах рэальнага сектара эканомікі ў лістападзе зноў пагоршыліся.

Так, агульная сума неплацяжоў па будаўніцтву за апошні месяц узрасла больш чым у 2 разы (з 41,3 да 88 млрд. рублёў), з 130,3 да 148 млрд. павялічыліся даўгі ў прамысловасці, з 2,1 да 2,7 млрд. — па аўтатранспарту.

Нягледзячы на продаж ураджаю-98, працягваюць узрастаць неплацяжы па сельскай гаспадарцы: па стану на 30 лістапада, яны складалі 1 трлн. 281 млрд. рублёў, або 80 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці па заробках. У прыватнасці, на пачатак снежня ў спісе даўжнікоў былі 1392 калгасы і 455 саўгасаў краіны.

**Сяргей ГРЫБ.**




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ДЗЕД МАРОЗ МОЖА НЕ СПЯШАЦЦА АДПРАЎЛЯЦЦА Ў ТРАДЫЦЫЙНАЕ НАВАГОДНЯЕ ПАДАРОЖЖА. ПАДАРУНКІ ЯШЧЭ НЕ ГАТОВЫ

**Пакуль што сфарміравана менш як палова ад неабходнай колькасці навагодніх падарункаў. Аб гэтым было заяўлена 4 снежня на Рэспубліканскім штабе пры прэзідэнце.**

Кіраўнік канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Валерый Каштанаў, аднак, не схільны драматызаваць сітуацыю. Кандытарскія прадпрыемствы, паводле яго слоў, ужо закупілі неабходную колькасць какававых зярнят для вытворчасці шакаладных цукерак. Чакаецца таксама, што нейкая частка гэтай сыравіны паступіць днямі ад канцэрна «Бабаеўскі» Расійскай Федэрацыі ў рамках дасягнутай раней дамоўленасці паміж прэзідэнтам канцэрна Сяргеем Насенкам і прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Увогуле, запэўніў Валерый Каштанаў, дзятва на Новы год без падарункаў не застанецца.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**



## Усміхнёмся!




**СУСТРЭЧА ДВУХ СЯБРОЎ**

*— Як справы?*

*— Ды вось, здаецца, жонка здраджвае мне з пекарам. Раскладваю ложак — у ім мука, хлебныя крошкі.*

*— Цяпер я пачынаю падазраваць, што і мая здраджвае са слесарам Івановым з нашага ЖЭСа.*

*— Чаму ты так думаеш?*

*— Як ні прыйду дадому, слесар Іваноў ляжыць у нашым ложку.*

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 8 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 210000 | 230000 | 128000 | 137000 | 10200 | 11200 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 91 000,00 | | 54 328,36 | | 4 450,00 | | Курс на 09.12.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 20,4300 | | 12,1556 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## УВАГА: «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**На пытанні чытачоў «Звязды» адкажуць:**

**міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ**

**«Прамая лінія» адбудзецца сёння, 9 снежня з 11 да 12 гадзін** па рэдакцыйных тэлефонах: ***(8-017) 232-38-21, 232-38-92.***

**міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч БАТУРА**

**«Прамую лінію» «Звязда» праводзіць *10 снежня з 14 да 15 гадзін.*** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: ***(8-017) 232-38-21, 232-38-92.***

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА І ПЁТР ПРАКАПОВІЧ АБМЕРКАВАЛІ ГРАШОВА-КРЭДЫТНУЮ ПАЛІТЫКУ

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка прыняў 8 снежня з дакладам старшыню праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пятра Пракаповіча.**

Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба кіраўніка дзяржавы, Аляксандр Лукашэнка заслухаў інфармацыю аб грашова-крэдытнай палітыцы, якая праводзіцца ў гэтым годзе, і аб прагнозах у гэтай сферы на 1999 год. Прэзідэнт даў указанне да сярэдзіны снежня завяршыць распрацоўку грашова-крэдытнай палітыкі на наступны год і прадставіць яму адпаведныя прапановы разам з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця і праектам бюджэту на 1999 год.

Кіраўніку дзяржавы было далажана аб выніках візіту дэлегацыі прадстаўнікоў беларускіх дзелавых колаў у Аўстрыю, у выніку якога дасягнуты пагадненні аб прыцягненні крэдытных рэсурсаў для рэканструкцыі Беларускага металургічнага завода, Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў і некаторых іншых аб'ектаў.

Акрамя таго, Пётр Пракаповіч праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб кантактах з Міжнародным валютным фондам і супрацоўніцтве з місіяй МВФ, якая знаходзіцца цяпер у Беларусі. Кіраўнік дзяржавы даручыў прадоўжыць работу з гэтай міжнароднай фінансавай арганізацыяй у мэтах выкарыстання яе магчымасцяў для атрымання Рэспублікай Беларусь крэдытных рэсурсаў з адпаведнага фонду.

**БЕЛТА.**

## МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ ВЕДАЕ АБ СІТУАЦЫІ Ў ГАНДЛІ НЕ З ЧУЖЫХ СЛОЎ

У мінулыя выхадныя дні кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры прэзідэнце, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч асабіста правёў кантраляваў работу гандлёвых прадпрыемстваў Фрунзенскага раёна горада Мінска.

Як паведамілі БЕЛТА ў сакратарыяце кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, Міхаіл Мясніковіч рэзка крытыкаваў работу кіраўніцтва універсама «Фрунзенскі» па забеспячэнню жыхароў раёна харчовымі таварамі першай неабходнасці і ўказаў на недапушчальную пасіўнасць абслуговага персаналу і таваразнаўцаў у плане пашырэння асартыменту харчовых тавараў.

Міхаіл Мясніковіч запатрабаваў ад кіраўніцтва Мінскага гарвыканкама і Адміністрацыі Фрунзенскага раёна ліквідаваць гэтыя хібы да 12 снежня гэтага года.

7 снежня работа гандлю Фрунзенскага раёна сталіцы была разгледжана ў Мінгарвыканкаме. Кіраўнікі гандлёвых прадпрыемстваў папярэджаны аб персанальнай адказнасці за дапушчаную безыніцыятыўнасць у забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання. Адначасова прыняты дадатковыя меры па насычэнню спажывецкага рынку.

**БЕЛТА.**

## МПА НЕ БАЧЫЦЬ СЯБЕ Ў ЯКАСЦІ ДАРАДЧАГА ОРГАНА ПРЫ ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНЫМ КАМІТЭЦЕ САДРУЖНАСЦІ

У Санкт-Пецярбургу 8 снежня пачала работу Міжпарламенцкая асамблея Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У 12-м пленарным пасяджэнні МПА прымаюць удзел прадстаўнікі заканадаўчых і прадстаўнічых органаў краін СНД, наглядальнікі ад Савета Еўропы і Парламенцкай асамблеі Чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва. Беларускую дэлегацыю ўзначалілі старшыні абедзвюх палат парламента Павел Шыпук і Анатоль Малафееў.

З дакладам, прысвечаным праблеме рэфармавання СНД, перад удзельнікамі пасяджэння выступіў старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па міжнародных справах і сувязях з СНД Аляксандр Козыр. Ён выклаў сутнасць прапаноў, якія былі выпрацаваны спецыяльнай рабочай групай, раней створанай МПА для распрацоўкі канцэпцыі рэфармавання СНД.

У прыватнасці, рабочая група прапанавала вызначыць дзве прыярытэтныя мэты Садружнасці: стварэнне зоны свабоднага гандлю і ўрэгуляванне канфліктаў на тэрыторыі краін СНД.

У першай палове дня ўдзельнікі 12-га пленарнага пасяджэння МПА заслухалі таксама даклады «Аб абароне дзяцінства ў дзяржавах Садружнасці» і «Аб рэсурсазберажэнні ў дзяржавах СНД напярэдадні трэцяга тысячагоддзя». Былі прыняты мадэльныя законы «Аб банкаўскай тайне», «Аб барацьбе з тэрарызмам», «Аб барацьбе з карупцыяй», «Аб процідзеянні легалізацыі даходаў, атрыманых незаконным шляхам», «Аб фінансавых асновах мясцовага самакіравання». Дакладчыкам па мадэльнаму закону «Аб дзяржаўнай абароне суддзяў, службовых асоб, праваахоўных і кантралюючых органаў», які быў адобраны ўдзельнікамі пасяджэння, выступіў намеснік Старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па заканадаўству Мікалай Карпіевіч.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## СТРАСЦІ НА КАСТРЫЧНІЦКАЙ ПЛОШЧЫ СТАЛІЦЫ КРЫХУ ЎЛЯГУЦЦА

**Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт прыняў рашэнне аб забароне правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.**

У абгрунтаванні гэтага рашэння адзначаецца, што апошнім часам грамадска-палітычная сітуацыя ў горадзе характарызуецца павелічэннем падачы ў гарвыканкам колькасці заяў ад палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, прафесійных саюзаў і грамадзян аб дазволе на правядзенне імі розных акцый.

У гэтым годзе гарадскія ўлады атрымалі 505 такіх заяў, 32 з іх — аб правядзенні мерапрыемстваў на Кастрычніцкай плошчы.

Але, улічваючы месца яе размяшчэння і асаблівую значнасць гэтай плошчы як комплексу гісторыка-культурнай каштоўнасці дзяржавы, у мэтах забеспячэння правоў і свабод грамадзян, грамадскай бяспекі, а таксама нармальнага функцыянавання транспарту, Мінгарвыканкам, у адпаведнасці з артыкулам 10 Закона «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях і пікетаванні», прыняў рашэнне аб забароне правядзення на Кастрычніцкай плошчы падобных акцый.

Цяпер масавыя мерапрыемствы могуць праводзіцца тут толькі з дазволу Савета Міністраў і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

**БЕЛТА.**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб дапаўненні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь»**

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 лістапада 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 26 лістапада 1998 года*

**Артыкул 1.** Дапоўніць частку адзінаццатую артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 1993 года «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь і дзяржаўных пазабюджэтных фондах» у рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 15 ліпеня 1998 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1993 г., № 20, арт. 240; Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 34, арт. 476) абзацам першым наступнага зместу:

«Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, як правіла, да 1 кастрычніка года, які папярэднічае чарговаму фінансаваму (бюджэтнаму) году, уносіць у Парламент Рэспублікі Беларусь праект закона аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на чарговы фінансавы (бюджэтны) год з наступнымі дадаткамі».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*4 снежня 1998 г., г. Мінск. № 212-З*

## ПРЫЁМ У ВЫКАНКАМЕ СНД

Выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі вечарам 7 снежня даў прыём у гонар сёмай гадавіны ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Прыём праходзіў у штаб-кватэры Выканкама СНД у Мінску. У ім прынялі ўдзел кіраўнік беларускага ўрада С. С. Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. У. Мясніковіч, міністры, прадстаўнікі грамадскасці.

Адкрываючы прыём, Выканаўчы сакратар СНД нагадаў аб трагічным землятрусе, які адбыўся ў Арменіі дзесяць гадоў таму, і прапанаваў ушанаваць памяць ахвяр гэтай трагедыі хвілінай маўчання.

У сваім уступным слове Барыс Беразоўскі падкрэсліў, што воля народаў і прэзідэнтаў ператварыць СНД у больш эфектыўную структуру блізкая да рэалізацыі і што ўжо ў бліжэйшы час у гэтым напрамку будуць зроблены канкрэтныя крокі. Сяргей Лінг адзначыў, што Садружнасць вытрымала выпрабаванне часам. Б. Беразоўскі і С. Лінг выказаліся за ўмацаванне супрацоўніцтва паміж дзяржавамі Садружнасці і пажадалі шчасця і дабрабыту народам СНД.

Затым зоркі расійскай эстрады далі канцэрт, які адкрыў вядомы вядучы «Кола гісторыі» і «Поля цудаў» Леанід Якубовіч. Перад удзельнікамі прыёму выканалі свае песні Ларыса Грыбалёва, Аляксандр Малінін, Алёна Свірыдава, Крысціна Арбакайтэ, Леў Лешчанка, побач з якім у адным з дуэтаў цудоўна глядзелася беларуска Ліка Ялінская.

**БЕЛТА.**

## Ці стане СНД альтэрнатыўным цэнтрам свету?

Выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі з нагоды сёмай гадавіны ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў заявіў у Мінску, што ён у значнай ступені задаволены тым, як рухаецца работа над канцэпцыяй рэфарміравання СНД.

— Ад мовы ультыматумаў мы рэальна перайшлі да пошуку сутнасці пытанняў, да таго, як лепш зрабіць. Сёння мы пераходзім да наступнага этапа. Агульная схема ў прынцыпе прынята, цяпер мы будзем расшыфроўваць гэтую агульную схему, канкрэтызаваць функцыі, распрацоўваць механізмы,— падкрэсліў Б. Беразоўскі. Ён заначыў, што агульная схема рэформы СНД адобрана ўсімі кіраўнікамі ўрадаў краін СНД, і ў выніку павінен з'явіцца адзіны ўзгоднены ўсімі краінамі дакумент. Беразоўскі лічыць, што прэзідэнты краін СНД змогуць сабрацца ў лютым наступнага года і зацвердзіць гэтыя асноўныя рашэнні па рэфарміраванню СНД, аднак само рэфарміраванне будзе працягвацца даволі доўга і непаспешліва. Рэформы — гэта працэс пастаянны, лічыць Беразоўскі.

Ацэньваючы Белавежскія пагадненні 1991 года, Беразоўскі сказаў, што ён лічыць іх вынікам нявырашанасці ні Расійскай імперыяй, ні СССР нацыянальнага пытання.«Адбылося тое, чаго не магло не адбыцца, бо ў Расіі за трыста гадоў новай гісторыі не знайшлося такой інтэлектуальнай сілы, якая была б здольная вырашыць гэтую важэйшую праблему. На жаль, высновы не зроблены і цяпер, сённяшняя сітуацыя ў Расіі паказвае, што працэсы яе распаду працягваюцца»,— адзначыў Б. Беразоўскі.

Гаворачы аб унутрырасійскіх падзеях, Барыс Абрамавіч прызнаў, што падзеі ў Расіі значна ўплываюць на стан спраў у СНД, бо Расія была і застаецца стрыжнем Садружнасці. У прыватнасці, заявіў ён, усе прэзідэнты краін СНД, з якімі ён сустракаўся (а нядаўна за дзесяць дзён ён паспеў пагаварыць з дзевяццю прэзідэнтамі), выказваюць сваю занепакоенасць актыўнасцю нацыяналістычных і шавіністычных сіл у Расійскай Федэрацыі. На яго погляд, «камуністычны рух у Расіі рэальна ператвараецца ў нацыяналістычны». Тут, як вядома, адбіваюцца негатыўныя адносіны, якія склаліся ў Беразоўскага з камуністычнай большасцю Дзярждумы Расіі, якая патрабуе адстаўкі Беразоўскага за тое, што ён выказаўся за забарону кампартыі...

Ці стануць СНД, краіны былога СССР яшчэ адным новым альтэрнатыўным цэнтрам свету, як ЗША і Заходняя Еўропа, або краіны Садружнасці разыдуцца ў накірунках да іншых цэнтраў у Еўропе і Азіі? Такое ключавое для СНД пытанне паставіў Б. Беразоўскі. Адказ на яго залежыць ад эфектыўнасці дзеяння СНД і яе цяперашняга рэфарміравання.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Адзін дзень для нечарговай сесіі

**Мерапрыемствы ў сувязі з правядзеннем дзесятай, нечарговай сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі пачнуцца раніцай 14 снежня пасля прылёту ў Мінск дэпутатаў расійскага парламента. Удзельнікі сесіі з абедзвюх краін ускладуць кветкі на плошчы Перамогі.**

Пасля гэтага ў будынку Дома ўрада пройдуць пасяджэнні камісій Парламенцкага Сходу, дзе папярэдне будуць абмеркаваны парадак дня і вырашаны рабочыя пытанні. Канчатковы план работы дэпутатаў будзе зацверджаны Саветам Парламенцкага сходу і непасрэдна на сесіі. Галоўным пытаннем на сесіі будзе праект бюджэту Саюза Беларусі і Расіі. Як вядома, ён не быў зацверджаны на сустрэчы ў Яраслаўлі, таму і з'явілася патрэба ў скліканні нечарговай сесіі ў Мінску. Верагодна, можа зноў узнікнуць пытанне адносна выканання бюджэту гэтага года, паколькі фінансаванне сумесных праграм адбывалася сёлета вельмі дрэнна.

На сесіі чакаецца выступленне прэзідэнта Беларусі, кіраўніка Вышэйшага Савета Саюза Аляксандра Лукашэнкі.

У гэты ж дзень парламентарыі Беларусі і Расіі плануюць наведаць мінскае вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», каб пазнаёміцца з вытворчасцю тэлевізійнай тэхнікі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*З першых вуснаў*

**Уладзімір МАЦКЕВІЧ:**

## «БОЛЬШ ЗА ЎСЁ Я БАЯЎСЯ СТАЦЬ «ВЯСЕЛЬНЫМ ГЕНЕРАЛАМ»

**Чарговае нядаўняе прызначэнне дзяржаўнага чыноўніка на пасаду спартыўнага функцыянера для многіх стала сапраўднай нечаканасцю. Яшчэ б! Старшыня КДБ Беларусі Уладзімір МАЦКЕВІЧ не адмовіўся свае асноўныя абавязкі сумяшчаць яшчэ і з «крэслам» прэзідэнта беларускай Федэрацыі біятлону. Як не адмовіўся ён адказаць і на пытанні карэспандэнта «Звязды».**

**— Уладзімір Аляксандравіч, наколькі вялікай нечаканасцю было такое прызначэнне для Вас?**

— Настолькі, наколькі наогул магчымыя нечаканасці для кіраўніка спецслужбы. (Смяецца.) А калі сур'ёзна, то я на самай справе быў спачатку здзіўлены такой прапановай, якая зыходзіла ад нашых біятланістаў. З імі я асабіста знаёмы ўжо даўно і мне, безумоўна, было прыемна пачуць ад іх запрашэнне. Праўда, да прыняцця нейкага рашэння вырашыў абавязкова параіцца з былым кіраўніком гэтай Федэрацыі Аляксандрам Хандогіным. Апошні пераканаў мяне, што такое супрацоўніцтва пойдзе толькі на карысць — наш жа камітэт мае штатную каманду па біятлону, у якую ўваходзяць такія вядомыя спартсмены, як Аляксей Айдараў і Алег Рыжанкоў. Таму да таго моманту, як я атрымаў «дабро» ад прэзідэнта Беларусі, маральна да работы на новай пасадзе быў ужо падрыхтаваны.



**— Аляксандр Хандогін у душы, магчыма, і меў нейкую крыўду...**

— Ну, па-першае, зараз Аляксандр Пятровіч у федэрацыі працуе маім намеснікам. Па-другое, як вы самі разумееце, у мяне не было аніякага жадання змагацца за гэту пасаду і чапляцца за яе, што называецца, усімі магчымымі сродкамі. Менавіта таму я не збіраюся дзейнічаць па прынцыпу «новага веніка» і раскідвацца добрымі кадрамі. Ад кіраўнікоў жа патрэбна толькі адно — стварыць нармальныя, чалавечыя ўмовы для нашых спартсменаў і не перашкаджаць ім перамагаць. А тое, што яны ўмеюць гэта рабіць, у доказах, думаю, не мае патрэбы.

**— За той першы час Вашага знаходжання на новай пасадзе нешта канкрэтна ў нашым біятлоне ўжо зроблена?**

— Сама меней, сродкі для вучэбна-трэніровачных збораў у Швецыі і выступлення беларускіх біятланістаў на этапах Кубкаў свету і Еўропы знайсці ўдалося. Па нашым часе і гэтыя грошы можна лічыць невялікім дасягненнем.

**— А ў планах?..**

— Я цвёрда ўпэўнены, што прэзідыум федэрацыі павінен працаваць па-іншаму. Не адчувалася раней як такой сілы федэрацыі, усё круцілася-вярцелася вакол зборнай, яе праблем, саставу, выступленняў на міжнародных турнірах. Так, нацыянальная каманда — гэта важна! Так, наш біятлон сёння — яшчэ і візітная картка дзяржавы. Але ж, па вялікаму рахунку, калі зараз мы не будзем азірацца сабе «за спіну» — працягваць традыцыі, расціць змену, адчыняць новыя базы, то будучыні ў «вялікага» беларускага біятлону асабіста я не бачу. Таму не пазней студзеня наступнага года планую правесці сустрэчу з усімі трэнерамі, якія працуюць з рэзервам, наведаць большасць біятлонных кропак і ўжо на месцы вызначыцца з праблемамі. Іх, наколькі ведаю, хапае.

**— Вось і аб рэканструкцыі базы ў Раўбічах неаднойчы гаварылася. Аб тым, што грошай на такую рэканструкцыю пакуль няма...**

— Што ж тут хаваць, іх і сапраўды няма. Аднак праблема ёсць, і яе неабходна будзе вырашаць.

**— Уладзімір Аляксандравіч, не магу не задаць з такой нагоды традыцыйнае пытанне аб «вясельным генерале». У Вас сур'ёзная работа ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі. Ці да біятлону Вам будзе?**

— Ведаеце, а менавіта гэтага я больш за ўсё і баяўся, пакуль раздумваў над прапановай. І паверце, «сем разоў адмерыў, пакуль адрэзаў». Зрэшты, тут трэба менш гаварыць, а больш рабіць.

**— Самі са спортам «на сяброўскай назе»?**

— Як кажуць, «зорак» са спартыўнага небасхілу не хапаў, аднак восем спартыўных разрадаў у розных відах спорту маю — выступаў і на першынствах па футболу, валейболу, лыжах, стральбе... Ну і, вядома ж, балельшчык яшчэ той. Дарэчы, біятлонам мяне жонка заразіла. Яны з дачкой на пару падчас трансляцый з чэмпіянатаў свету і Алімпіяды нават храналогію падзей вялі. Так што традыцыі ёсць.

**— Што ж, дзякую за інтэрв'ю. Поспехаў Вам на новай пасадзе, а нашым біятланістам — у новым сезоне!**

**Алесь СІВЫ.**

## ВАДЗІМ ГУСТАЎ ПРАПАНАВАЎ ЛІКВІДАВАЦЬ «СЛАБЫЯ ВУЗЛЫ» Ў БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Візіт у Беларусь першага намесніка Старшыні ўрада Расіі Вадзіма Густава пачаўся 8 снежня з сустрэчы з прэм'ер-міністрам нашай рэспублікі Сяргеем Лінгам. Прадметам іх перагавораў былі праблемы ўзаемаразлікаў паміж прадпрыемствамі дзвюх краін, тарыфная палітыка на чыгуначным транспарце, пастаўкі ў Беларусь прыроднага газу. У ходзе гутаркі былі таксама папярэдне ўзгоднены падыходы бакоў да вырашэння асноўных пытанняў, вынесеных на абмеркаванне чарговага пасяджэння Выканкама Саюза Беларусі і Расіі, якое намечана на 9 снежня.

Сяргей Лінг падкрэсліў, што апошнія беларуска-расійскія сустрэчы на ўрадавым узроўні прынеслі адчувальныя вынікі. А Вадзім Густаў, які выказаў трывогу наконт зніжэння тавараабароту паміж нашымі краінамі, адразу ж прапанаваў зрабіць канкрэтныя крокі па ліквідацыі «слабых вузлоў» у эканамічным супрацоўніцтве. У прыватнасці, прадстаўнікі банкаўскіх структур, якія прыбылі ў Мінск у саставе афіцыйнай расійскай дэлегацыі, сумесна са сваімі беларускімі калегамі павінны аператыўна выпрацаваць эфектыўныя меры па паскарэнню ўзаемаразлікаў.

Пасля сустрэчы з прэм'ер-міністрам нашай краіны Вадзім Густаў адправіўся на Мінскі трактарны завод. На гэты ж дзень ён запланаваў наведванне вытворчага аб'яднання «Гарызонт» і Валожынскага льнозавода.

**БЕЛТА.**

## Новы міністр бярэцца за праблему «Драздоў»

**Урал Латыпаў, новы кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства, упэўнена пачаў дзейнасць на новай пасадзе. На адной з першых афіцыйных сустрэч ён меў гутарку з Упаўнаважаным прадстаўніком Еўрапейскага саюза Дзітмарам Штудэманам.**

На перамовах абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з урэгуляваннем праблем, якія ўзніклі пасля скандалу ў «Драздах». Ці прадэманстраваны беларускім бокам новыя падыходы ў вырашэнні гэтага дыпламатычнага крызісу, прэс-служба МЗС не паведамляе.

7 снежня таксама адбылася сустрэча Урала Латыпава з Выканаўчым сакратаром СНД Барысам Беразоўскім. Падчас яе ішла гаворка пра перспектывы рэфарміравання органаў Садружнасці, пра агульныя мерапрыемствы з удзелам кіраўнікоў краін СНД, якія маюць адбыцца ў снежні гэтага года.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ю. Д. Мароз назначаны міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.**

Юрый Дзмітрыевіч Мароз нарадзіўся ў 1950 годзе ў Мінскай вобласці.

Адукацыя вышэйшая. Кандыдат эканамічных навук.

Закончыў у 1974 годзе Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі.

По адукацыі інжынер-механік сельскай гаспадаркі.

У 1967—1974 гг. — студэнт Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.

У 1974—1975 гг. — інжынер-механік Дырэкцыі будуемага Барысаўскага комплексу па прамысловай вытворчасці свініны.

З 1975 па 1980 г. — старшы інжынер — загадчык майстэрань па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту абсталявання саўгаса-камбіната «Барысаўскі» Барысаўскага раёна.

У 1980—1982 гг. — начальнік аддзела камплектацыі Дырэкцыі па будаўніцтву жывёлагадоўчага комплексу «Аршанскі» Аршанскага раёна.

У 1982-1983 гг. — дырэктар Дырэкцыі будуемага комплексу «Камянецкі» Камянецкага раёна.

У 1983—1996 гг. — дырэктар саўгаса «Белавежскі» Камянецкага раёна.

У 1996-1997 гг. — старшыня камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Брэсцкага аблвыканкама.

З лістапада 1997 года — першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.

Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

**БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ АТРЫМЛІВАЦЬ ЛІТОЎСКУЮ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ

**Кампанія «Літоўская энергія» не будзе спыняць пастаўкі электраэнергіі ў Беларусь.**

Аб'ёмы паставак электраэнергіі з суседняй дзяржавы застануцца ў памеры 500 мільёнаў кВт/гадзін у месяц. Такое рашэнне было прынята кіраўніцтвам літоўскай кампаніі пасля прыняцця пастановы беларускага ўрада аб разліках з Літвой за электраэнергію. Яны будуць праведзены да канца гэтага года. На думку спецыялістаў, гэта дасць магчымасць стварыць спрыяльныя ўмовы для перагавораў аб пастаўках электраэнергіі ў Беларусь на наступны год.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

## У Вядзераве заззяе зорачка «Звязды» ... і надзея

**Калі б давялося выбіраць візітную картку нашага чытача, я б выбраў менавіта гэты здымак. Такія мы, беларусы: сціплыя, шчырыя, здольныя на ўсмешку.**



Кацярыне Вікенцьеўне Журко (справа) мы ўручылі чарговы прыз звяздоўскай латарэі. І яна, завітаўшы да нас са сваёй раднёй з вёскі Вядзерава Бешанковіцкага раёна, расказала аб сваім жыцці, вясковых навінах.

Няпроста адной жанчыне на вёсцы. Але заўсёды ў радасць — паспяваць у вольны час у калгасным хоры і пачытаць «Звязду».

У дадатак да прыгожага бра мы перадалі Кацярыне Вікенцьеўне зборнік прыпевак і самыя шчырыя пажаданні.

**Віктар ХУРСІК.**

## Школьнікі пачнуць святкаваць разам з усёй краінай

**У гэтым годзе зімовыя канікулы пачнуцца ў беларускіх школьнікаў незвычайна рана — з 25 снежня.**

Як растлумачылі нам у Галоўным упраўленні агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі РБ, перанос зімовых канікулаў звязаны са святкаваннем адразу трох святаў (Новага года, каталіцкіх і праваслаўных Каляд), якія ідуць на працягу зусім кароткага часу адно за адным. Адпаведна, і за школьныя парты нашы дзеці сядуць раней — ужо 8 студзеня наступнага года. Аднак у цэлым ніякага скарачэння канікулярных дзён не адбудзецца.

Цяпер беларускія школьнікі гуляюць на працягу вучэбнага года 30 дзён.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

СІТУАЦЫЯ

# «КРЭМАТОРЫЙ» У «РАІ»

## 1. Станцыя Баравое супраць Рэспублікі Беларусь

Станцыя Баравое, што на Глыбоччыне, сапраўды многім, асабліва гараджанам, можа падацца раем для адпачынку. Спакой, цішыня, вакол лес, у якім поўна грыбоў і ягад (як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, апенькі тут косяць касой, а суніцы носяць вёдрамі). Невялікія азёры, у якіх поўна рыбы, а дно такое пакатае і чыстае, што могуць купацца нават немаўляты. Вялікіх вёсак паблізу няма — тыя, што ёсць, хутчэй хутаркі, а не вёскі. Спакой парушае толькі чыгунка, але ж гэта і выгадна — і на Мінск можна паехаць, і на Глыбокае, і на Паставы. Ды яшчэ вядомы кар'ер «Баравое», да якога ўжо ўсе прывыклі: дзейнічае ён амаль сто гадоў, на яго пяску пабудаваны ці не ўвесь Наваполацк, а на выбраных яго гектарах і размешчаны, уласна кажучы, усе вышэйпералічаныя выгоды: і лес, і азёры, і тыя ж хутаркі. Карацей, амаль не выклікае сумненняў, што, пабыўшы тут аднойчы, кожны захоча вярнуцца сюды яшчэ, а ад'язджаючы, па-добраму пазайздросціць мясцовым, якія ў гэтым куточку не госці, а гаспадары, і спакой і прыгажосць для іх — не экзотыка, а звычайны лад жыцця...

Але гэта толькі на першы погляд. Не, дакладней будзе так: гэта можна было напісаць пра Баравое яшчэ чатыры гады таму, і гэта была б праўда. Сёння, калі прыглядзецца і прыслухацца, усё выглядае інакш. Гэтыя спакойныя райскія мясціны проста ліхаманіць. «Хвароба» зацягнулася ўжо на чацвёрты год і невядома, ці наступіць калі не выздараўленне, то хаця б паляпшэнне. Сімптомы гэтай хваробы — пастаянныя камісіі, праверкі, агульныя сходы, тлумачэнні і іх непрыманне, нервовасць, якая стала прывычным станам для навакольных жыхароў і рабочых кар'ера. Ды яшчэ, напэўна, — страх. Страх, народжаны недаверам, за здароўе сваё і блізкіх людзей. Прычына «хваробы» — смуродны дым, які ідзе з невысокага коміна ў кар'еры. Нехта, убачыўшы яго, прыгадаў ці то саму вайну, ці то фільмы пра яе, і за комінам трывала замацавалася ў народзе назва — «крэматорый»...

На самай справе «страшны» комін належыць японскай устаноўцы, у якой спальваюцца кінафотарэнтгенматэрыялы. Гаспадар устаноўкі — дзяржаўнае прадпрыемства «БелВДМ», якое, адпаведна, знаходзіцца ў падпарадкаванні Камітэта па каштоўных металах. Для недасведчаных патлумачу: пры спальванні выкарыстанай плёнкі застаецца срэбраносны попел, які пасля спецыяльнай перапрацоўкі дае чыстае серабро. Плёнкі ў нас нямала — узяць хаця б рэнтгенкабінеты ці фотастудыі. Выкінуць яе нікуды не выкінеш — яна не распадаецца дзесяцігоддзямі. Дый нашто выкідваць ці спальваць на сметніку, калі ва ўсім свеце практыкуецца атрыманне серабра — так, як гэта робяць у Баравым. Лічу патрэбным заўважыць тут жа, што гэта ўстаноўка ў нашай краіне адзіная і, як сведчаць спецыялісты, дае рэспубліцы немалы запас каштоўнага металу. Як жа здарылася, што законапаслухмяныя грамадзяне са станцыі Баравое (а што яны законапаслухмяныя, у тым нават сумненняў не ўзнікае), раптам узбунтаваліся супраць дзяржаўнага прадпрыемства, якое, да таго ж, дае дзяржаве адчувальны прыбытак? Калі перайсці ад прыватнага да агульнага, дык атрымаецца: станцыя Баравое супраць Рэспублікі Беларусь. У гэтым процістаянні ў кожнага з бакоў свая праўда. Пакуль што агульнага ў гэтых праўдах вельмі мала, хіба што той неаспрэчны факт, што ўстаноўка стаіць у кар'еры і дыміць.

## 2. Казімір Раманкевіч і яго каманда

На чале барацьбы за дэмантаж ці закрыццё «крэматорыя» ў Баравым стаіць дэпутат сельскага Савета Казімір Раманкевіч. Яго падтрымліваюць выбаршчыкі — пенсіянеры з навакольных вёсачак, якія ставяць подпісы пад шматлікімі заявамі, што піша іх дэпутат у розныя інстанцыі, і збіраюцца на сходы, куды іх склікае той жа дэпутат, калі прыязджае чарговая камісія па чарговай заяве. Сам Раманкевіч не раз ужо быў і ў Мінску — прывозіў заявы ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Атрымаўшы чарговы адказ, які, на яго погляд, не адпавядае рэчаіснасці, Казімір Іосіфавіч напісаў у рэдакцыю. Таму, прыехаўшы ў Баравое, я перш за ўсё сустрэлася з ім, як з чалавекам найбольш дасведчаным. Такім чынам, праўда станцыі Баравое вачыма Казіміра Раманкевіча.

Устаноўка, аб якой ідзе размова, стаяла да гэтага ў Мінску. Але там вельмі хутка разабраліся, што яна шкодная, і пад выглядам пашырэння прадпрыемства вырашылі сплавіць яе куды падалей. Доўга не думаючы, перавезлі яе ў Глыбоцкі раён, бо нехта Уладзімір Шнэк, на той час галоўны ляснічы Дзвінскай эксперыментальнай базы акадэміі лесу, на тэрыторыі якой і размешчаны кар'ер, даводзіцца родным братам Аляксандру Шнэку, тагачаснаму дырэктару гэтага самага «БелВДМ». Тады, у 1995-м, яшчэ на поўную моц ішла прыватызацыя, вось і вырашылі браты ў глыбінцы з часам прыбраць да рук гэту срэбраносную справу. Да навакольнага асяроддзя Шнэку, хоць і жыве тут, справы асабліва няма, ён сёння тут, заўтра там, бо не мясцовы, з чарнобыльскай зоны перасяліўся.

Спачатку ўстаноўку прывезлі і разабраную склалі ў кар'еры, а самі тую плёнку пачалі паліць прама ў чанах, пад адкрытым небам. Палілі мясцовыя рабочыя, якіх наняў ляснічы. Куродым стаяў — дыхаць не было чым. Праўда, экалагічная служба раёна хутка разабралася, у чым справа, і спальванне прыпынілі. Аб чым, адпаведна, паведаміла глыбоцкая «раёнка» (тую выразку за красавік 96-га Казімір Іосіфавіч беражліва захоўвае). На нейкі час усё сціхла, але ў 97-м пачалося будаўніцтва памяшкання для ўстаноўкі, і ўжо ў сярэдзіне лета «крэматорый» запрацаваў, выкідваючы едкі дым. Аказалася, што ўсе паперы на дазвол ужо падпісаны, але падпісаны яны былі ў кабінетах Уладзімірам Шнэкам, а на месца ніхто не выязджаў і ў людзей ніхто нічога не пытаўся...

Дзесьці з вясны 97-га пачынаецца перапіска жыхароў станцыі Баравое ў асобе Казіміра Раманкевіча з рознага рангу ўстановамі — ад райвыканкама да Міністэрства прыродных рэсурсаў. Адказы адтуль у розных варыяцыях гучаць прыкладна аднолькава: ніякіх асабліва шкодных выкідаў устаноўка не дае, таму перапыняць яе работу ў кар'еры няма ніякіх падстаў.

Але пільны Казімір Іосіфавіч знаходзіць у гэтых адказах некаторыя супярэчнасці. Вось адказвалі з Віцебска, што выкід рэчываў ніжэйшы за норму, а вось пазнейшы адказ, пасля чарговага звароту: «работы прыпынены да ўстанаўлення дапусцімых нормаў». Вось пішуць, што праводзіліся замеры, указваюць даты, калі яны рабіліся, але ён, Казімір Раманкевіч, можа даць стопрацэнтную гарантыю, што ва ўказаныя даты камісія была толькі паўгадзіны, аднойчы. Усе астатнія дні ён той камісіі не бачыў, а ўсё ж на вачах — ад яго рабочага месца ў кар'еры да таго «крэматорыя» — метраў пяцьдзесят... Вось, дзеля большай пераканаўчасці, пішуць, што ўстаноўка бясшкодная, бо стаіць на тэрыторыі эксперыментальнай базы, дык у тым жа і справа, што база эксперыментальная: ставяць на людзях доследы, выжывуць у гэтай сітуацыі ці не. Пішуць, і пры сустрэчы гаварылі, што паліць толькі як вецер на лес будзе ісці, а самі паляць калі заўгодна, і такі дым верне. Пэўна, рабочыя загрузяць усю начную норму за раз, а самі ідуць сабе ды спяць. Ну і што, што з мая па верасень яны яе паліць не будуць? Вунь ішлі ў жніўні пасля дажджу, падпарка як дала, з лагчыны такі смурод пайшоў, нібы «крэматорый» запрацаваў. А пасля першых пісьмаў Шнэк, каторы ляснічы, лістоўкі паўсюль раскідваў за подпісам важных начальнікаў: і з Віцебска, з абласнога камітэта прыродных рэсурсаў, і з Мінска, з Мінпрыроды, з таго ж «БелВДМ». Каб усё чыста было — не баяліся б з людзьмі сустрэцца, пагаварыць. А не раскідвалі б лістоўкі, як дыверсанты якія... І наогул, сталіца далёка, ніхто тут нічога не кантралюе, невядома яшчэ, хто на гэтым сярэбраным попеле рукі грэе...

Паўтаруся, гэта не мае ўласныя высновы (я тут, здаецца, на высновы наогул прэтэндаваць наўрад ці змагу), гэта праўда Казіміра Раманкевіча, у літаратурным стылі пададзеная. Карацей, упэўнены Казімір Іосіфавіч, што людзей тут труцяць па нечай прыхамаці, бо людзі гэтыя — у асноўным пенсіянеры, безабаронныя, амаль непісьменныя. І яго дэпутацкі абавязак — абараніць гэтых людзей ды і родныя мясціны ад «атруты».

Людзі (канешне ж, па закліку Раманкевіча) сабраліся зусім недалёка ад «крэматорыя», у хаце Дануты Уладзіміраўны Шульга. Дзевяць старых, яны сядзелі і з павагай і чаканнем глядзелі на свайго «палкаводца». Убачыўшы ўва мне нейкага начальніка, які, нарэшце, іх выслухае і дапаможа, бабулі наперабой пачалі расказваць. І сады сёлета цвілі, а ніводнага яблычка ніхто не пакаштаваў, і шпакі прыляцелі, а як у маі «крэматорый» задыміў, дык і прапалі некуды. І галубоў на кар'еры безліч было — цяпер ніводнага няма. Гаспадыня паскардзілася, што ўнукі едуць ужо з меншай ахвотай, а калі і едуць, дык на двор выходзіць не хочуць: смярдзіць там, кажуць. У Леакадзіі Лявонцьеўны Садоўскай два гады не пакрывалася цялушка. Такая ладная, здаровая, а давялося прырэзаць — што ж трымаць дарма? Ва ўсіх бедах, лічаць старыя, вінаваты «крэматорый».

У самім «крэматорыі» пабыць мне не ўдалося: труба не дыміла, на дзвярах вісеў вялікі замок. «Гэта яны ведалі, што вы прыедзеце, спецыяльна, каб не зайшлі», — пракаменціраваў Казімір Іосіфавіч. Праўда, пасля абеду запалілі. «Ведаюць, што хутка поезд на Мінск адыходзіць, зайсці не паспееце», — тут жа знайшоў тлумачэнне дэпутат. Яно і сапраўды было так, таму толькі з акна цягніка давялося пабачыць дымячую трубу. Нічога незвычайнага — тыповы для горада краявід. Такіх па дарозе на працу штораніцы бачу як мінімум пяць...

Рабочыя кар'ера, якія працуюць у непасрэднай блізкасці ад устаноўкі, былі больш стрыманыя на эмоцыі і вывады, чым бабулі і дзяды. Так, смярдзіць, бывае, дым. Так, здараецца, дыхаць цяжка, але як мароз без снегу, дык тут за пылам дыхаць цяжка і без дыму. Вадзіцель Міхаіл Міхалевіч сказаў толькі, падумаўшы: «Галава баліць пасля работы». А начальнік кар'ера Дзмітрый Русяноўскі, які хоць і начальнік, але таксама ў кар'еры цэлы дзень бывае, асцярожна заўважыў, зірнуўшы на Раманкевіча: «Яны ж даказваюць, што тут зусім не шкодна...»

Дазволю сабе апісаць яшчэ аднаго героя гэтай гісторыі, які аднекуль з'явіўся падчас размовы з рабочымі кар'ера. Уладзімір Шнэк, ляснічы. Трымаецца чужаком і ўжо не імкнецца быць прынятым. Зацяты, упэўнены ў тым, што ўвесь канфлікт з-за таго, што іменна ён прывёз сюды гэту ўстаноўку. З Раманкевічам, здаецца, наогул ідэйныя ворагі. Калі спытала яго, як гаспадара лесу, як ставіцца да таго, што зніклі галубы, задзірыста адказаў: «А якая карысць з тых галубоў?» (Абараняецца, нават калі на яго не нападаюць. Падумалася, што з такім жа запалам можа сказаць: «А якая карысць з тых пенсіянераў?»)...

Здаецца, яго прысутнасць сапраўды ўзмацняе канфлікт. Тым не менш, ён упарта паўтарае: «Як толькі спецыялісты дакажуць, што ўстаноўка шкодная, я першы буду патрабаваць яе вывезці...»

## 3. Праўда № 2 жыве на Севастопальскай

Так, іменна на Севастопальскай вуліцы ў сталіцы размешчана тое самае прадпрыемства «БелВДМ», якому і належыць тая злашчасная ўстаноўка. Яго дырэктар Аляксандр Рымаровіч сустрэцца быў гатовы адразу, патлумачыўшы: «Ён (Раманкевіч. — **А. Л.**) падчас апошняй сустрэчы паабяцаў, што напіша ў газету. Таму прыходзьце, буду расказваць афіцыйную версію...»

Значыць, праўда другога боку, Рэспублікі Беларусь, ад Аляксандра Рымаровіча.

Устаноўка была закуплена яшчэ пры Саюзе, у 1990 годзе. Тады ў Мінску быў проста перапрацоўчы рэгіянальны цэх. Цяпер такая «штука» была б рэспубліцы наогул не па кішэні. Да гэтага плёнку спальвалі адкрытым спосабам, у чанах, на палігоне студыі «Беларусьфільм», пад Смалявічамі. Закупленую ўстаноўку (а іх было толькі пяць на Саюз) паставілі прама на Севастопальскай, у двары, атрымаўшы перад гэтым, вядома ж, усе адпаведныя дазволы і даведкі. Так і дыміла тая ўстаноўка ў Мінску, нярэдка цэлымі суткамі (якраз выводзіліся войскі з Германіі, знішчаліся кіна- і фотаархівы).. Прэтэнзій у экалагічных службаў горада не было ніякіх. Але ў 95-м узнікла неабходнасць перанесці ўстаноўку ў іншае месца: рыхтавалася праектаванне новага будынка «БелВДМ». Стары, дзе і сёння знаходзіцца цэх па здабычы серабра з адпрацаванага фіксажу і рэстаўрацыйная ювелірная майстэрня, быў пабудаваны як жылы барак яшчэ ў 49-м палоннымі немцамі. Праектаванне павінна было скончыцца ў канцы 95-га, ў 96-м пачацца будаўніцтва. (Але, як часта бывае ў нашай краіне, праектаванне скончылася толькі сёлета. Канешне ж, па аб'ектыўных прычынах, якія, вядома ж, пацверджаны адпаведнымі дакументамі.) Размяшчэнне ўстаноўкі, дарэчы, у новым праекце не запланавана: занадта мала плошчы пад новы будынак.

У 95-м пачалі шукаць новае месца для ўстаноўкі. Тагачасны дырэктар Шнэк і яго намеснік Рымаровіч звярталіся тады ў розныя раёны. І ўсюды — няўдача. Дзесьці прапаноўвалі арэнду, што было ненадзейна. Дзесьці давалі згоду, але, даведаўшыся, што справу маюць з каштоўным металам, тут жа адмаўляліся: дзе гэты самы метал, там і злачыннасць. Каму патрэбны ў раёне лішнія праблемы? Таму і не дзіўна, што дырэктар папрасіў брата, не апошнюю ў раёне асобу, каб той усё патлумачыў на месцы раённаму начальству, папрасіў дазволу на размяшчэнне ўстаноўкі. Дазвол быў атрыманы. Што датычыць адкрытага спальвання ў кар'еры, дык сённяшні дырэктар ад яго не аднекваецца: факт меў месца. Атрымаўшы папярэджанне ад экалагічных службаў раёна, работы спыніліся. А калі ўжо ўзяліся ўстанаўліваць японскую печ, меліся ўсе дазволы і ўсе заключэнні. З некаторымі паперамі сапраўды замест брата ездзіў у раён ляснічы: усё ж яму бліжэй, чым таму з Мінска. У чым, уласна кажучы, Аляксандр Раманавіч ніякага крыміналу не бачыць.

Лістоўкі былі напісаны, каб супакоіць насельніцтва, але гэта, як бачна, саслужыла адваротную службу. Што датычыцца нормаў выкідаў, іх сапраўды не было, таму што падобнай устаноўкі дагэтуль у нас не існавала. Тое, што Раманкевіч не бачыў, як рабіліся замеры, зусім не значыць, што іх не праводзілі: не ўвесь жа час ён у кар'еры сядзіць. Спецыфічны пах ад дыму, зразумела, будзе — нават ў фотаатэлье ён ёсць. Але на ўстаноўцы ставяць двайныя фільтры, бо разам з неачышчаным дымам вылятае серабро. Ніхто не можа запіхнуць у печ больш за норму, бо яна тут жа патухне. Гэтак жа як наўрад ці хто з рабочых стане цягнуць попел: усё пад кантролем, а з попелу серабра толькі 30 працэнтаў, дый тое выдзяляюць аж пад Масквой, у Шчолкаве.

«Знайшлі ў Баравым «крайніх». Што ні робіцца — устаноўка вінавата. Рыба здохла ў возеры — ад дыму, бабуля ў лес пайшла, дрэнна стала — гэта ж яна дыму нанюхалася. Парсюк не захацеў выходзіць з хлява, як калоць сабраліся, — гэта ж ён не шыла баяўся, а дым носам адчуваў. А я ведаю адно: калі б віцебскім прыродаахоўнікам было да чаго прыдрацца, яны б даўно ўстаноўку прыкрылі, каб лішняга клопату не было, бо па пісьмах з Баравога іменна ім больш за ўсё ездзіць даводзіцца», — гаворыць спадар Рымаровіч.

Ён запэўнівае таксама, што будуць шукаць спосабы ачышчэння дыму ад паху. Што ўстаноўка з мая па верасень не будзе працаваць наогул. Што аб'ём работы будзе змяншацца (не так ужо і шмат у нас адпрацаванай плёнкі). Што паліць будуць толькі тады, калі вецер будзе дзьмуць на лес, а не на вёску. Адзінае, чаго не можа дырэктар гарантаваць, дакладней, ён можа гарантаваць адваротнае: устаноўка будзе стаяць на ранейшым месцы. І патрабаваць перанесці яе з-за непрыемнага паху — тое самае, што жыхарам вуліцы Ваўпшасава ў Мінску патрабаваць перанесці трактарны завод.

Даведаўшыся, што я не пабыла на самой устаноўцы, Рымаровіч тут жа прапанаваў: «Паедзем, паглядзіце, як працуе. Тады, як вы былі, пэўна, вецер на вёску дзьмуў, вось і не палілі». Ехаць я адмовілася: што мне, недасведчанаму чалавеку, глядзець на тую печ? Ды і зусім не ў тым, як яна гарыць, сутнасць канфлікту, здаецца...

## 4. Заключнае шматкроп'е ад аўтара

Што мы маем у гэтай сітуацыі цяпер? Дазволю сабе працытаваць: «Дадзенае пытанне разглядалася раней Мінпрыроды і Рэспубліканскім цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі, і падстаў для спынення работы названага аб'екта яны не знайшлі. Нягледзячы на довады спецыялістаў і прапануемыя меры, мясцовыя жыхары патрабавання аб закрыцці ўстаноўкі і вынасе яе за межы вобласці не знялі. На падставе напісанага лічым мэтазгодным працягваць эксплуатацыю ўстаноўкі...» (Подпісы: старшыня Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Віцебскай вобласці. 17 лістапада 1998 г. З адказу ў Адміністрацыю Прэзідэнта.)

Кола замкнулася, каб зноў пачацца з кропкі адліку. Раманкевіч зноў збярэ подпісы, зноў адправіць заказное пісьмо. Зноў прыедзе камісія і дасць адказ: усё ў норме. Устаноўка застанецца ў Баравым. У аддаленае месца яе не перанясеш — патрэбны вада, электрычнасць, пад'язны шлях. У іншы раён — хто яе цяпер возьме з такім «хвастом» чутак і камісій? Да таго ж, перанос яе ў іншае месца пацвердзіць, што жыхары Баравога мелі рацыю, што яна шкодная. Адзінае выйсце — перанесці яе на тэрыторыю якой-небудзь воінскай часці. Але ёсць вялікая рызыка, што, разабраўшы яшчэ раз, яе ўжо не збярэш. Так што Бараваму наканавана працяглая, калі не хранічная, ліхаманка...

Я паабяцала не рабіць ніякіх высноў, але ўсё ж дазволю сабе адну, дый тую ва ўмоўным ладзе. Канфлікту магло б не быць, калі б...

Калі б тыя высокія асобы, што ставілі свае подпісы на лістоўцы, яшчэ перад тым, як прасіць дазволу ў раённага начальства, прыехалі ды пагаварылі з людзьмі. Не тое што дазволу прасіць, а проста пагаварыць, патлумачыць усё, параіцца, расказаць, якая важная для дзяржавы справа будзе ў іх рабіцца, запэўніць, што гэта зусім не пашкодзіць іх здароўю. Добра ведаючы вясковых людзей, асмелюся сцвярджаць, што кожны з іх быў бы ўлашчаны, што дзяржаўныя людзі раяцца з ім, простым селянінам, што ён далучаны да важнай дзяржаўнай справы, што і ён — частка гэтай дзяржавы. І не вельмі прыемны дым з «крэматорыя» яны ўспрынялі б як неабходнасць, якую яны, грамадзяне дзяржавы, разумеюць... І зусім няважна, дзе б гэта адбывалася — у Баравым ці дзесьці яшчэ.

Замест гэтага людзі бачылі, як чужы ім чалавек ад імя дзяржавы распараджаецца на іхняй зямлі, ні ў кога ні пра што не пытаючыся. Значыць, тыя, хто стаіць за ім — гэткія самыя самаўпэўненыя і раўнадушныя. Людзьмі пагарджалі, і людзі абражаныя. Я асабіста нічога дзіўнага тут не бачу.

А тое, што было пасля, — лістоўкі, тлумачэнні, сустрэчы — усё гэта ўжо запознена і безвынікова, тое самае, што рабіць прафілактычную прышчэпку чалавеку, які даўно захварэў. А ў нас, здаецца, многія «хваробы» іменна так і спрабуюць лячыць.

Вось тут, мяркую, самы час паставіць абяцанае шматкроп'е...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Глыбоцкі раён — Мінск.*

ПАШТОВАЕ АДДЗЯЛЕННЕ

## НА СЛУП ЗНАЙШЛАСЯ ПАДПОРА, НА АБЫЯКАВЫХ — УПРАВА

У нашага чытача Івана Васільевіча Цімашэнкі з вёскі Іванаўка Буда-Кашалёўскага раёна сапсаваўся тэлефон. Вядома ж, Іван Васільевіч паспяшаўся выклікаць майстра. Майстар з'явіўся, але тэлефон рамантаваць не стаў: маўляў, кабель тэлефонны на электрычным слупе, а слуп аварыйны.

Тады звярнуўся І. Цімашэнка да начальніка лінейнага ўчастка і пачуў ужо іншы адказ, але... пра той жа слуп. «Не паложана», аказваецца, каб тэлефонны кабель на электраслупе быў. «Капай траншэю — можа, пракладзём кабель пад зямлёй, а на слуп больш не палезем...»

«Я трактарыст, раблю сваю справу, адкуль мне ведаць, дзе той кабель павінен быць — на вішні, на ігрушы, на слупе, ці пад зямлёй? Я заплаціў за ўстаноўку, своечасова плачу абанентную плату, а рамантаваць, здаецца, справа вузла сувязі», — пісаў чытач.

Што рамантаваць — гэта іх справа, на Буда-Кашалёўскім РВЭС зразумелі тады, калі рэдакцыя пераслала туды пісьмо чытача. Як значыцца ў адказе, «факт сапраўды меў месца. Пасля ўмацавання апоры прыстаўкай было ліквідавана пашкоджанне тэлефоннай лініі. За допушчаную валакіту начальніку лінейнага ўчастка аб'яўлена вымова, а дыспетчар РВЭС пазбаўлена прэміі за кастрычнік».

**Аддзел пісьмаў «Звязды».**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...СТВАРЫЦЬ У ДОМЕ НАВАГОДНІ НАСТРОЙ



Навагодняе свята, як вядома, прыходзіць у кожны дом разам з навагодняй ёлкай. У апошнія гады лясных прыгажунь пацяснілі ў нашай краіне штучныя вырабы польскай вытворчасці, за якімі, папершае, не трэба стаяць у чарзе на марозе, а па-другое, збіраць іголкі па кватэры пасля прайшоўшых святаў. Да таго ж па прыгажосці яны могуць паспрачацца нават з самымі лепшымі прадстаўніцамі беларускага лесу. Варта заўважыць, дадавала папулярнасці штучным ёлкам таксама і больш-менш прымальная на іх цана, напрыклад, у мінулым годзе паўтараметровую прыгажуню можна было набыць за 1,5—2 мільёны рублёў, затое сёння такое дрэўца каштуе ўжо 10—12 мільёнаў. 2,5 мільёна рублёў каштуе 60-сантыметровая елка, а вось цана на 2-метровыя вырабы дасягае сёлета ўжо 24—35 мільёнаў. Таму наўрад ці знойдзецца шмат жадаючых упрыгожыць сваё свята за такія грошы.

Дарэчы, ёлка, жывая ці штучная, ніяк не можа абысціся без ёлачных упрыгажэнняў, якія хаця і ёсць амаль у кожным доме, але штогод патрабуюць абнаўлення. На сённяшні дзень гэта сапраўдная раскоша, бо сярэдняя цана аднаго шарыка ў мінскіх крамах вагаецца ад 45 да 150 тысяч рублёў. Зразумела, беларуская прадукцыя больш танная, але ў афармленні яна саступае расійскім і польскім ёлачным цацкам, да таго ж і сустрэць яе можна далёка не ва ўсіх навагодніх секцыях. Кошт набораў шароў таксама б'е па кішэні: ад 230 тысяч да мільёна рублёў.

Але больш за ўсё ўражваюць цэны на гірлянды. Так, калі летась верх цэн на польскую прадукцыю складаў 300 тысяч рублёў, і большасць пакупнікоў толькі прыцмоквалі каля іх языкамі, то цяпер цана шыкоўных 3-метровых рознакаляровых гірляндаў увогуле выйшла за межы разумнага, дасягнуўшы 2,5 мільёна рублёў. Больш жа сціплыя варыянты — ад 450 тысяч да 1 млн. 800 тысяч рублёў. Кітайская мішура — 110—150 тысяч.

Бадай, самым танным ёлачным атрыбутам застаецца на сённяшні дзень электрагірлянда: у 190 тысяч рублёў ацэньваецца брэсцкая прадукцыя і ў 230 тысяч — расійская. Праўда, трэба заўважыць, што задаволіць яна можа толькі самага неперабарлівага пакупніка, бо яе дызайн не змяняецца ўжо, напэўна, дзесяцігоддзе. Затое польскія і кітайскія агеньчыкі так і прыцягваюць вока сваёй разнастайнасцю, і калі не звяртаць увагі на іх цану (ад 1 млн. 100 тысяч да 4,5 мільёна), то лепшага ўпрыгажэння для вашай ёлкі цяжка будзе знайсці.

Неапраўданымі затратамі палічаць многія беларусы сёлета і набыццё бенгальскіх агнёў, хлапушак і свечак. За імгненнае задавальненне выстраліць хлапушкай прыйдзецца заплаціць ад 52 да 114 тысяч рублёў, 62 тысячы каштуе дзесятак бенгальскіх агнёў, больш за 100 тысяч — прыстойныя свечкі, і ад 270 да 400 тыс. рублёў — навагоднія падсвечнікі для іх кітайскіх вытворцаў.

Пакуль у навагодніх секцыях зацішша. Магчыма, яшчэ не надышоў час святочнай мітусні. А можа, укладваць грошы ў добры настрой у наш час лічыцца неактуальным?

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Пашпарт мяняюць у вызначаным узросце

*У 2000 годзе мне споўніцца 45 гадоў. Наколькі я ведаю, мне давядзецца мяняць свой пашпарт на дакумент новага ўзору. А калі я памяняю пашпарт зараз, ці давядзецца праходзіць праз гэтую працэдуру яшчэ раз і ў 45 гадоў? Чуў, нібыта той, хто не памяняе пашпарт у бліжэйшы час, будзе аштрафаваны. Ці праўда гэта і як мне быць?*

**Віктар Стальмахоў,**
в. Каменка Кармянскага раёна.

*Мне зараз 23 гады. Хацеў бы атрымаць пашпарт новага ўзору. Ці трэба будзе яго зноў мяняць, калі мне споўніцца 25 гадоў?*

**А. Р.,** Чэрвеньскі раён.

На гэтыя пытанні нам дапамог знайсці адказы намеснік начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы Міністэрства ўнутраных спраў Валерый Казлоўскі. Па-першае, ніякіх тэрмінаў, у якія трэба ўкласціся са зменай пашпартоў, ніхто не вызначаў. Гэты працэс будзе адбывацца пакрысе, пакуль галоўны дакумент не зменяць усе грамадзяне нашай краіны. Што датычыць нашых чытачоў, дык калі яны зараз атрымаюць новыя нацыянальныя пашпарты (адпаведна ў 43 і 23 гады), дык па дасягненні імі ўзросту: адным — 45 гадоў, другім — 25 гадоў, ім усё роўна давядзецца прайсці яшчэ раз гэтую працэдуру. «Калі б чалавек мяняў пашпарт у 44 гады, тады іншая справа, — гаворыць Валерый Казлоўскі, — наступны раз мяняць пашпарт яму прыйшлося б, па правілах, толькі ў 100-гадовым узросце».

## Па месцы прапіскі?

*Ці магчыма рабіць аплату за камунальныя паслугі па месцы фактычнага пражывання (у тым выпадку, калі прапісаны ў іншым месцы)?*

**М. Вайцахоўская,** г. Мазыр.
**Е. Веліч**, г. Ганцавічы.

Такая магчымасць у вас ёсць. У адпаведнасці з існуючымі правіламі, у тым выпадку, калі людзі не пражываюць па месцы прапіскі, яны могуць узяць даведку, якая пацвярджае гэты факт. У выніку з'яўляецца статус асобы, якая часова адсутнічае, і права не ўносіць плату за камунальныя паслугі. Там, дзе вы прапісаны, неабходна будзе аплачваць толькі ацяпленне і квартплату, па месцы фактычнага пражывання — усе камунальныя паслугі.

## Ільгота на ўсіх не распаўсюджваецца

*Я інвалід II групы на агульнаму захворванню. Жыву ў трохпакаёвай кватэры разам з жонкай, дачкой, унукам і сынам. Ці распаўсюджваецца льгота пры аплаце за ацяпленне на ўсю плошчу?*

**Е. Цапка,** г. Мінск.

Як патлумачылі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі у адпаведнасці з Законам «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў» такая льгота прадастаўляецца толькі ў тым выпадку, калі з інвалідам не пражываюць працаздольныя члены сям'і.

## Даведку павінны выдаваць

*Кожны год падчас водпуску, калі адпачывалі ў вёсцы, у сельсавеце бралі даведку аб сваім знаходжанні ў населеным пункце. Гэта давала магчымасць не плаціць за газ і ваду за пэўны тэрмін. Сёлета сказалі, што такія даведкі выдавацца не будуць. Ці справядліва гэта?*

**Ж. Барачэня**, Старадарожскі раён.

Як нам стала вядома, Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі было распрацавана палажэнне па пераразліку аплаты за паслугі галіны ў выпадку часовай адсутнасці жыхароў. У адпаведнасці з гэтым дакументам сельскія Саветы абавязаны выдаваць такія даведкі, каб засведчыць, што чалавек пэўны тэрмін сапраўды пражываў у той ці іншай мясцовасці. Гэта дае магчымасць жыхару не ўносіць плату за газ, ваду і каналізацыю.

## Каб сын вучыўся ў магістратуры, звярніцеся да ваенкома

*Мой сын сёлета скончыў Віцебскі педагагічны універсітэт. У ліпені здаў экзамены і паступіў у магістратуру пры універсітэце з працягласцю навучання ў адзін год. У канцы кастрычніка яму прыйшла павестка з ваенкамата, па якой ён павінен прайсці медыцынскую камісію на годнасць да ваеннай службы. Пасля гэтага сыну сказалі, што ён будзе прызваны. Даведка аб тым, што сын займаецца ў магістратуры, у ваенкамаце ёсць. Прашу даць адказ — хто тут мае рацыю, ваенкамат ці мы?*

**Валянціна Міхайлава,** г. Міёры.

Адказ на пытанне чытачкі нам дапамаглі знайсці ў прэс-службе Міністэрства абароны. Так, згодна з прынятай 13.4.95 г. папраўцы ў артыкул 15 у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб агульным воінскім абавязку і ваеннай службе», аспіранты дзённай формы навучання атрымліваць адтэрміноўку да заканчэння вучобы. Тыя, хто паступаў у магістратуру, былі пазбаўлены такой магчымасці. Атрымліваецца, што вучыцца могуць усе, а вось падрыхтавацца да вучобы — не. Таму, як паведамілі ў прэс-службе, каб выправіць становішча, ужо даўно была падрыхтавана яшчэ адна папраўка ў закон. Пакуль яна не прынята, але гэта можа здарыцца і ў бліжэйшы час. Таму нашай чытачцы параілі найперш звярнуцца з адпаведнай заявай да ваенкома, дзе выкласці сутнасць праблемы. Пры магчымасці, як заўважылі ў прэс-службе, сыну будзе дадзена адтэрміноўка.

## Пазбаўленне правоў на дзіця ад аліментаў не выратуе

*Я выхоўваю дзіця адна. Мой былы муж ужо амаль год не плаціць аліменты. Спагнаць іх амаль немагчыма: ён нідзе не працуе. Чула, што, калі бацьку пазбавіць правоў на дзіця, маці будзе атрымліваць дапамогу як маці-адзіночка. Ці так гэта?*

**Наталля Астроўская,** Чашнікі.

Як адказалі ў аддзеле сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны, пытанні пазбаўлення бацькоўскіх правоў знаходзяцца ў кампетэнцыі органаў адукацыі. Калі бацька дзіцяці ўсё ж пазбаўлены бацькоўскіх правоў, ад уплаты аліментаў ён усё роўна не вызваляецца. Маці, адпаведна, ніякай дадатковай дапамогі не атрымлівае.

## Акцыі спецінвестфондаў можна купляць і прадаваць за грошы

*Мая матуля падарыла мне 400 чэкаў «Жыллё». Ці маю я права перавесці гэтыя чэкі ў чэкі «Маёмасць»? Акрамя гэтага, ці магу я прадаць акцыі інвестфонду «Слаўнафта»? Чуў, што гэта ўжо немагчыма...*

**В. Занкевіч**, г. Петрыкаў.

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў камітэце па размеркаванню акцый Міндзяржмаёмасці, сёння абмяняць чэкі «Жыллё» на чэкі «Маёмасць» немагчыма. Справа ў тым, што чэкі «Маёмасць» налічвалі і выдавалі грамадзянам краіны толькі да 1 ліпеня гэтага года.

Што датычыцца продажу акцый, то, згодна з прэзідэнцкім Дэкрэтам аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці ад 20 сакавіка 1998 года, дзейнічае мараторый на продаж акцый, якія атрыманы ў перыяд бязвыплатнай прыватызацыі. Аднак трэба заўважыць, што гутарка ідзе аб акцыях прыватызаваных прадпрыемстваў. Акцыі інвестыцыйных фондаў прадаваць або купляць за грошы заканадаўствам не забаронена.

## Каб карыстацца льготамі, донару не трэба чакаць пенсіі

*Я з'яўляюся ганаровым донарам БССР. Маю адпаведны знак і пасведчанне. Якімі льготамі я буду карыстацца па дасягненні пенсійнага ўзросту?*

**Станіслаў Душэўскі,**
в. Пухавічы Пухавіцкага раёна.

Усе льготы для донараў, узнагароджаных знакам «Ганаровы донар БССР» і маючых адпаведнае пасведчанне, прадугледжаны Законам Рэспублікі Беларусь «Аб донарстве крыві і яе кампанентаў», які быў прыняты 31 студзеня 1995 года, паведамілі рэдакцыі ў Рэспубліканскай станцыі пералівання крыві. У законе прадугледжаны шэраг ільгот, азнаёміцца з якімі можна ў любой медыцынскай установе. Бадай, самымі істотнымі з іх з'яўляюцца 10-працэнтная надбаўка да пенсіі і 50-працэнтная скідка з кошту лекаў. Дарэчы, апошняй льготай чытач можа карыстацца ўжо зараз, не чакаючы выхаду на пенсію. Гэтак жа, напрыклад, як і бясплатна пратэзаваць зубы, за выключэннем выпадкаў, калі выкарыстоўваюцца каштоўныя металы, і інш. Раім самастойна прагледзець поўны спіс належных вам, як ганароваму донару, ільгот.

## «Чарнобыльскі» водпуск у любы час. Але сёлета...

*Паважаны «Пытальнік»! Як удзельнікаў ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС, нас цікавяць адказы на такія пытанні. Па-першае, у які час мы можам браць свой законны 14-дзённы водпуск? І па-другое, ці магчыма перанесці гэты водпуск на наступны год?*

**Лучыніц, Дамбоўскі, Цандзер, Мігай,**
г. Светлагорск.

Як паведамілі «Звяздзе» ў юрыдычным аддзеле Міністэрства працы, 14-дзённы водпуск (паводле арт. 19) можа прадастаўляцца як разам з асноўным водпускам, так і ў любы іншы зручны момант адзін раз на працягу года незалежна ад тэрміну працы ў наймальніка. Згодна з законам, 14-дзённы водпуск ліквідатарам з'яўляецца мэтавым і пераносу на наступны год не падлягае.

## Папярэдняя аплата — толькі па магчымасці

*З чэрвеня 1998 года мясцовае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі патрабуе ўносіць квартплату і плату за камунальныя паслугі за месяц уперад. Наколькі гэта законна?*

**С. Чэшка,** г. Івацэвічы.

Як патлумачылі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, такое патрабаванне (аплата камунальных паслуг за бягучы месяц да канца месяца) носіць хутчэй характар рэкамендацыі і не можа ажыццяўляцца прымусова. Гэта зроблена з мэтай аздараўлення фінансавага стану жыллёва-эксплуатацыйных арганізацый, скарачэння ўзроўню запазычанасці насельніцтва па плацяжах. Калі ў жыхара няма магчымасці ўносіць плату ў прапанаваныя тэрміны, то пеня налічваецца ў такім жа парадку, як і раней, — да канца наступнага месяца штрафныя санкцыі не ўступаюць у сілу.

## Неабходна звярнуцца ў сельсавет

*Якім чынам аплачваецца кватэра ў сельскай мясцовасці?*

**С. Пцухно**, Ельскі раён.
**Л. Кушнік**, Рагачоўскі раён.

Як патлумачылі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, узровень аплаты ў гэтым выпадку залежыць ад аказання той ці іншай паслугі. Калі ж кватэра прыватызаваная, то мясцовы камунгас мае магчымасць браць плату за абслугоўванне ў памеры, які не перавышае ўзровень стаўкі квартплаты. Тым не менш, за больш падрабязнымі тлумачэннямі варта звярнуцца ў сельскі Савет.

## Ільгота застаецца

*У ЖБК пражывае ўдава ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Яна карысталася льготай 50-працэнтнай аплаты за камунальныя паслугі. З верасня 1998 года да яе прапісалася ўнучка. Ці мае бабуля права на льготу?*

Старшыня ЖБК № 6 г. Смаргоні **Т. Гедроіц.**

Як патлумачылі ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, у адпаведнасці з законам ільготы маюць бацькі альбо ўступіўшыя ў паўторны шлюб жонкі загінуўшых, прапаўшых без вестак ваеннаслужачых, незалежна ад віду пенсіі, якую яны атрымліваюць. Скідка распаўсюджваецца і на членаў іх сем'яў у выпадку іх сумеснага пражывання. Памеры льготы — 50 працэнтаў кватэрнай платы. Плошча, якая больш за норму, аплачваецца поўнасцю. Такая ж скідка прадастаўляецца па аплаце за камунальныя паслугі ў тым выпадку, калі ўдзельнік вайны памёр у пасляваенны перыяд, пры ўмове, што ён з'яўляўся інвалідам агульнага захворвання любой групы.

## Чаргу за субсідыяй не «пераскочыць» нават інвалід

*Я адзінокая маці. Маё дзіця — інвалід з дзяцінства з захворваннем «прыроджаны двухбаковы вывіх клубоў». Бязвыплатнага жылля нам у гарвыканкаме не далі, а прапанавалі ўступіць у маладзёжны жыллёва-будаўнічы кааператыў. Адразу абяцалі выдзеліць ільготны крэдыт пад 5 працэнтаў гадавых і субсідыю. Але потым нам у субсідыі адмовілі. Адказалі, што субсідыі даюць толькі тым, хто прастаяў у чарзе 8 і больш гадоў. У мяне пытанне: ці маю я права на субсідыю, калі ў мяне ёсць дзіця-інвалід? Акрамя таго, ці маю я льготы пры размеркаванні жылля, напрыклад, пры выбары паверха?*

**С. Змушко,** г. Калінкавічы.

З гэтымі пытаннямі карэспандэнт «Звязды» накіраваўся ва ўпраўленне інфраструктуры і жылля Мінархітэктуры. Там нам адказалі, што, згодна з заканадаўствам краіны, маці-адзіночка, у якой ёсць дзіця-інвалід, правам атрымання субсідыі без чаргі не валодае. У Гомельскай вобласці субсідыі атрымліваюць толькі тыя, хто прастаяў у чарзе не меней 8 гадоў.

Што датычыць другога пытання, то, згодна з Жыллёвым кодэксам (арт. 50), старым людзям, а таксама адпаведным катэгорыям інвалідаў і хворых па іх просьбах жыллёвыя памяшканні выдзяляюцца на ніжніх паверхах або ў дамах, у якіх ёсць ліфты.

## Неабходна зрабіць пераразлік

*Тэмпература ў кватэры трымаецца на адзнацы 14°С. Якім чынам павінна ажыццяўляцца плата за ацяпленне ў такім выпадку?*

**Г. Пасека**, Валожын.

Як патлумачыў начальнік аддзела камунальнай гаспадаркі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Уладзімір Зелянкоў, у выпадку, калі тэмпература ў жылым памяшканні не дасягае нарматыўнага паказчыка (нагадаем: ён складае не менш як 18°С), павінен абавязкова праводзіцца пераразлік аплаты. Ён робіцца на падставе спецыяльнага акта, які складаецца адпаведнай камісіяй у саставе двух спецыялістаў мясцовага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі — неабходна прысутнасць адказных за стан жылфонду і цеплазабеспячэння. Вынікі абследавання прадстаўляюцца ў разліковую групу РВА ЖКГ.

## Адкуль узнікла квартплата?

*Арганізацыя выдзеліла мне ў 1993 годзе недабудаваную хату. Я ліквідаваў усе недахопы і цяпер мяне прымушаюць уносіць квартплату. За што?*

**Яўген Д.,** г. Гарадок.

У адпаведнасці з існуючым заканадаўствам, калі вы вырашыце, што здолееце ажыццяўляць самастойнае тэхнічнае абслугоўванне жылога дома, то можаце дамовіцца з жыллёва-эксплуатацыйнай арганізацыяй аб неўнясенні вамі квартплаты. У гэтым выпадку вам неабходна будзе рабіць бягучы рамонт, уборку, вывозіць смецце. А калі ўзнікне патрэба ў паслугах пэўных спецыялістаў, то разлік будзе рабіцца за ўласныя сродкі ўладальніка жылога памяшкання.

## Службовае жыллё не падлягае прыватызацыі

*Працую ў вытворчым аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі з 1987 года. Нядаўна пачаў будаваць кааператыўную кватэру. Зараз жыву ў службовай. Ці маю я права яе прыватызаваць?*

**В. Арабей,** г. Кобрын.

Як патлумачылі нам у Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, зараз службовыя памяшканні ўвогуле не падлягаюць прыватызацыі ці выкупу. Праўда, Мінжылкамунгасам падрыхтаваны прапановы, у адпаведнасці з якімі права на прыватызацыю службовага жылля маюць асобы, што адпрацавалі не менш як 10 гадоў у сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Аднак гэта пытанне пакуль канчаткова не вырашана.

**Адказы на пытанні падрыхтавалі:
С. ГРЫБ, С. КУРКАЧ, М. ЛІТВІНАЎ,
А. ЛЯЎКОВІЧ, С. РАСОЛЬКА.**

**НЕ ТАК ДАЎНО НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ ПРАХОДЗІЎ РЭСПУБЛІКАНСКІ СЕМІНАР ПА ЭНЕРГАЗБЕРАЖЭННЮ Ў СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ. Гэты рэгіён быў выбраны не выпадкова: тут у ліку першых у рэспубліцы сталі пераходзіць на энергазберагальныя тэхналогіі. У прыватнасці, хуткімі тэмпамі пачалася замена састарэлых чыгунных катлоў, што працавалі на прывазных вугалі і мазуце, на больш прагрэсіўныя і эканамічныя — сталёвыя, дзе ў якасці паліва выкарыстоўваюцца адходы піламатэрыялаў, дровы. Адначасова пачалі замяняць электрычныя водападгравальныя ўстаноўкі на прыстасаванні для падагравання вады з дапамогай мясцовых відаў паліва. Шматабяцальнай з'яўляецца і праграма замены ліхтароў з традыцыйнымі электралямпамі на больш эканамічныя магутнасцю 9 ват. Такія ліхтары спажываюць прыкладна ў 6—8 разоў менш электраэнергіі, чым існуючыя, ды і служаць намнога больш.**

**У ажыццяўленне праграмы энергазберажэння вялікі ўклад уносяць найперш сельскія энергетыкі Гомельшчыны. Як зазначыў генеральны дырэктар аблаграпрамэнерга Алег Бычкоўскі, укараненне энергазберагальных тэхналогій прыносіць штогод многія мільярды рублёў прыбытку. І не выпадкова на мінулым тыдні генеральны дырэктар Мінскага аблаграпрамэнерга Антон Януковіч прывёз менавіта сюды на вучобу кіраўнікоў раённых прадпрыемстваў аграпрамэнерга. Да іх далучыліся і некалькі кіраўнікоў аналагічных прадпрыемстваў з суседняй Магілёўскай вобласці на чале з генеральным дырэктарам аблаграпрамэнерга Міхаілам Куляшом. Убачыць і навучыцца тут і сапраўды ёсць чаму. Удзельнікі гэтага семінара пабывалі ў Рагачоўскім раёне, дзе не жывёлагадоўчым комплексе калгаса «Чырвоная Армія» азнаёміліся з эфектыўнымі вентыляцыйнымі ўстаноўкамі — так званымі дэфлектарамі Шведава, якія зрабілі і змантавалі самі энергетыкі. На малочным комплексе саўгаса «Брылёва» таксама шмат навінак па энергазберажэнню. Вельмі спадабалася гасцям устаноўка па запарванню і плюшчэнню (менавіта не размолу, а плюшчэнню) збожжа. У выніку адпадае неабходнасць у млынах, ды і засваяльнасць такога прадукту нават лепшая, чым пры выкарыстанні на корм мукі. Пра гэта ў пэўнай меры сведчаць і надоі. У прыватнасці, сёлета тут мяркуюць атрымаць ад кожнай каровы больш як па 5,5 тысячы кілаграмаў малака. Але найбольш уразілі ўдзельнікаў гэтай паездкі энергазберагальныя работы, якія пачаліся ў Лельчыцкім раёне. І зусім не выпадкова гэты, бадай самы аддалены ад сталіцы раён, рэспубліканскі Камітэт па энергазберажэнню вызначыў у якасці базавага па ўкараненню ў вытворчасць і быт энергазберагальных тэхналогій.**

# ВУЧЫЦЦА ЖЫЦЬ АШЧАДНА, ПА СРОДКАХ

У вёску Мілошавічы мы прыехалі недзе ў другой палове дня. На вуліцы — такая халадэча, што, здаецца, імгненна ледзянее дыханне. Па словах мясцовых жыхароў, раніцай тэрмометр у Лельчыцах паказваў мінус 27 градусаў — для Гомельшчыны такое наогул нязвыкла нават для сярэдзіны зімы, а яшчэ ж — самы пачатак снежня. Але варта было пераступіць парог мясцовай школы, як дыхнула цеплынёй. Батарэі так напалены, што рукой не дакрануцца. Ва ўсякім разе, у сталічных школах, ды і ў нашых гарадскіх кватэрах — намнога халаднейшыя. А яшчэ не так даўно нават пры меншых маразах заняткі ў школах адмяняліся, закрываліся на пэўны час і дзіцячыя садзікі, бо тэмпературу не ўдавалася падняць вышэй 8—10 градусаў.

— Некалі і мы гэтак жа пакутавалі, аж пакуль не замянілі катлы, — тлумачыць дырэктар школы Пятро Прыходзька. — Колькі нацярпеліся ад тых старых чыгунных катлоў, якія спажывалі шмат паліва. Толькі вугалю на зіму патрабавалася недзе больш як 200 тон. Пры цане 5 мільёнаў за тону ў неба вылятала нямала сродкаў. З качагарамі таксама была праблема. Васьмёра чалавек ледзь спраўляліся са сваімі абавязкамі, бо мала таго, што ўвесь час трэба было махаць шуфлем, дык яшчэ колькі сіл і часу адымала ачыстка топак ад шлаку. Два гады таму нам прапанавалі два катлы фірмы «Камконт», палівам для якіх служыць звычайнае пілавінне, а таксама яшчэ адзін кацёл КВС-063, што працуе на дровах. Прычым апошні з'яўляецца рэзервовым, выкарыстоўваецца толькі ў крайнім выпадку. Такія катлы вельмі простыя ў абслугоўванні: чатыры разы на дзень засыпаў па некалькі кашоў пілавіння — і ўвесь клопат. Замест ранейшых васьмі качагараў працуюць чацвёра: хоць па конкурсу іх набірай на работу!

З задавальненнем наведалі тую кацельню. Зіхацяць фарбай тры агрэгаты, якія і катламі назваць можна хіба што ўмоўна — ні табе шуму, ні пылу, ні сажы. Навокал чысціня, парадак. Няма праблем і з забеспячэннем палівам. Аказваецца, непадалёку знаходзіцца піларама лясгаса. Раней там былі праблемы з пілавіннем: мала таго, што яго вывозілі на сметнік, дык яшчэ трэба было плаціць экалагічны падатак. А тут — усе ў выйгрышы: школа атрымала бясплатнае паліва, а лясгас вырашыў праблему утылізацыі адходаў вытворчасці. У выніку — велізарная (да мільярда рублёў у год эканомія).

Шмат што змянілася за апошнія два гады і ў саўгасе «Ударны», эксперыментальнай базе «Убарць» і іншых гаспадарках, дзе ўдалося пабываць у той дзень. І там старыя чыгунныя катлы замянілі на сталёвыя, перавялі іх на мясцовыя віды паліва. Па словах дырэктара саўгаса «Ударны» Уладзіміра Сікорскага, адпала патрэба завозіць вугаль, мазут. Абыходзяцца дровамі, якіх, дарэчы, у Лельчыцкім раёне хапае — каля 70 працэнтаў плошчы пакрыта лесам. Ды і каштуе кубаметр дроў недзе каля 40 тысяч рублёў — разоў у 10 танней, чым вугаль. І электракатлы замянілі на ўстаноўкі, дзе вада грэецца дровамі. У выніку штогод эканомяцца сотні тысяч кілават-гадзін электраэнергіі, кошт якой пастаянна расце.

На мясцовыя віды паліва пераводзяцца не толькі катлы ў сельскай гаспадарцы, але і на прамысловых



*Генеральны дырэктар Гомельскага аблаграпрамэнерга* ***Алег БЫЧКОЎСКІ*** *(злева)* ***знаёміць удзельнікаў семінара з новай цяпліцай у саўгасе «Брылёва» Гомельскага раёна.***

прадпрыемствах. З гордасцю паказвалі нам у ПМК-103 сушылку, што працуе на адходах піламатэрыялаў. Дарэчы, кацёл для яе — мясцовай вытворчасці. Гады два таму тут пачаліся работы па пераводу на мясцовыя віды паліва катлоў і ўстановак для сушкі піламатэрыялаў, награвання вады для раствора-бетоннага вузла, разагравання інертных матэрыялаў, а таксама ацяплення адміністрацыйных, бытавых і вытворчых будынкаў ПМК. Мясцовыя ўмельцы распрацавалі і асвоілі вытворчасць установак для сушкі піламатэрыялаў «Універсал» (цепланосьбіт — гарачае паветра), у якіх у якасці паліва выкарыстоўваюцца пілавінне і іншыя адходы драўніны любой вільготнасці. Яны могуць выкарыстоўвацца як у стацыянарных, так і перасовачных варыянтах. У сельскагаспадарчай вытворчасці іх з поспехам выкарыстоўваюць для абагравання цяпліц, жывёлагадоўчых памяшканняў, сушкі сена і збожжа. Магутнасць гэтай устаноўкі недзе каля 200 кілават, а сутачны расход пілавіння —прыкладна 3 кубаметры. І гэта пры аб'ёме ацяпляемых памяшканняў да 10.000 кубаметраў! Пры сушцы піламатэрыялаў сабекошт кубаметра драўніны складае каля 2 долараў — разоў у 10 менш, чым раней.

І ўсё ж чаму менавіта ў Лельчыцкім раёне так актыўна ўзяліся за ўкараненне энергазберагальных тэхналогій? Па ацэнках кіраўнікоў раёна, толькі тое, што ўжо зроблена ў гэтым напрамку, прыносіць штогод больш як 40 мільярдаў рублёў эканоміі. А ў рэспубліцы — 116 раёнаў. Няцяжка падлічыць, што калі б такімі тэмпамі паўсюдна ўкараняліся энергазберагальныя тэхналогіі, то эфект ад гадавой эканоміі энергетычных сродкаў вылічаўся б трыльёнамі рублёў.

— Усё тлумачыцца вельмі проста, — гаворыць генеральны дырэктар Гомельскага аблаграпрамэнерга Алег Бычкоўскі. — Поспехі не прымусяць сябе чакаць, калі ўсюды будуць так адносіцца да праблем энергазберажэння, як гэта робяць кіраўнік адміністрацыі Лельчыцкага раёна Уладзімір Міранавіч або той жа загадчык раённага аддзела народнай адукацыі Міхаіл Лось, які хоць і настаўнік па адукацыі, але не горш за іншага інжынера разбіраецца ў тэхнічных праблемах. А колькі часу, энергіі аддаюць пытанням энергазберажэння намеснік кіраўніка раённай адміністрацыі Мікалай Дашкевіч, дырэктар райаграпрамэнерга Уладзімір Ярац і іх паплечнікі!

Зрэшты, і сам Алег Піліпавіч апантаны гэтай ідэяй. Менавіта з яго прыходам на пасаду генеральнага дырэктара Гомельскага аблаграпрамэнерга тут усур'ёз узяліся за ўкараненне ў вытворчасць энергазберагальных тэхналогій. Скажам, раней нямала клопатаў выклікала праблема цеплазабеспячэння адміністрацыйнага будынка і вытворчых плошчаў. Мала таго, што за цеплаэнергію, якую атрымлівалі з гарадскіх цепласетак, трэба было плаціць штомесяц па сённяшніх цэнах недзе каля 1,5 мільярда рублёў, дык яшчэ і цяпло тое паступала з перабоямі. Вырашылі перайсці на аўтаномнае цеплазабеспячэнне. Змантыравалі два сталёвыя катлы КВС, завезлі неабходную колькасць дроў — і праблема вырашана: і ў канторы, і на вытворчасці цёпла, ды і эканомяцца за сезон многія сотні мільёнаў рублёў.

Значны ўклад сельскіх энергетыкаў Гомельшчыны і ў справу ажыццяўлення рэспубліканскай праграмы па энергазберажэнню. У прыватнасці, вырашана перавесці ўсе ацяпляльныя катлы і прыстасаванні для падагравання вады на мясцовыя віды паліва. З гэтай мэтай непасрэдна ў сябе на базе наладзілі вытворчасць сталёвых катлоў магутнасцю ад 25 да 630 кілават, якія можна выкарыстоўваць для ацяплення як вялікіх памяшканняў гаспадарчага і бытавога прызначэння, так і індывідуальных жылых дамоў, дач. Толькі сёлета перавод катлоў і прыстасаванняў для падагравання вады, якія спажываюць электраэнергію, вугаль і мазут, на мясцовыя віды паліва абяцае па вобласці эканомію каля 10 тысяч тон умоўнага паліва на суму каля 700 тысяч долараў — прыкладна 60 мільярдаў рублёў. Цяпер аблаграпрамэнэрга прцуе па больш чым 20 напрамках праграмы энэргазберажэння.

***АДНАК ЁСЦЬ І НЯМАЛА ПРАБЛЕМ. Пакуль укараненне энергазберагальных тэхналогій ажыццяўляецца ў асноўным дзякуючы энтузіязму асобных спецыялістаў. Словам, адсутнічае эканамічны стымул для правядзення работ. Якую выгаду атрымалі ў тым жа Лельчыцкім раёне ад таго, што зэканомілі за год каля 40 мільярдаў рублёў? Якая колькасць гэтых сродкаў засталася ў раёне? Ні капейкі. А хто са спецыялістаў заахвочаны? Аказваецца, таксама ніхто. На адным энтузіязме, як вядома, многа не напрацуеш. А таму, на думку кіраўнікоў раёна і аблаграпрамэнерга, трэба прадугледзець нейкія канкрэтныя адлічэнні як у бюджэт раёна, так і на заахвочванне непасрэдных удзельнікаў укаранення энергазберагальных тэхналогій.***

***І калі адсутнічае пернік для заахвочвання, дык пуга для запалохвання сцябае на поўную моц. Кіраўніцтва энергазбыту ўвяло жорсткія санкцыі адносна тых, хто дапускае перарасход электраэнергіі і не мае магчымасці своечасова разлічыцца за яе. Скажам, у кастрычніку за перавышэнне даведзеных лімітаў на гаспадаркі Гомельскай вобласці было налічана штрафных санкцый ажно на 100 мільярдаў рублёў. За лістапад — яшчэ на большую суму. Але многія калгасы і саўгасы і так у даўгах як у шаўках. Ды і якая іхняя віна ў тым, што некалі бяздумна будавалі кацельні па ўстарэлых тэхналогіях, манціравалі электракатлы для водападгравання. Тады спажыванне энергіі ніхто не лімітаваў, ды і каштавала яна танна. А сёння адным махам усё гэта не заменіш. Ды і штрафамі можна загнаць гаспадаркі ў яшчэ большую даўгавую яму.***

***Дарэчы, пра тарыфы. На працягу года за электраэнергію яны выраслі больш чым удвая ў параўнанні з ростам цэн на сельгаспрадукцыю. Калі не спыніць гэты рост, сельскагаспадарчая прадукцыя калгасаў і саўгасаў наогул не зможа канкурыраваць на рынку. Да таго ж няма цвёрдых тарыфаў за электраэнергію. Яны прывязаны адносна долара, курс якога мяняецца ледзь не штодня. Пры такой вакханаліі цэн ніводная вытворчасць не вытрымае, а сельская гаспадарка — у першую чаргу. Таму, на думку кіраўнікоў аблаграпрамэнерга, варта замарозіць для сельгасвытворцаў тарыфы на электраэнергію і адмяніць штрафы, інакш гаспадаркі ніколі ўжо не ўстануць з калень. А ўвогуле, па прапанове кіраўнікоў аблаграпрамэнэрга, пажадана, каб з рэспубліканскай і абласных праграм па энэргазберажэнню выдзялялася да трэці сродкаў на патрэбы сельскай гаспадаркі.***

***Здаецца, настаў час перагледзець састарэлыя нарматывы, якія забараняюць у падвалах і прыбудовах трымаць катлы для ацяплення. Іх прымушаюць манціраваць у спецыяльных кацельнях наводшыбе, пракладваць цеплатрасы. А гэта — дадатковы час і сродкі. Словам, і тут праблем хапае. А ўвогуле, тая праграма па энергазберажэнню, якую ажыццяўляюць сельскія энергетыкі Гомельшчыны, яшчэ раз пацвярджае вядомую ісціну, што трэба вучыцца жыць ашчадна, па сродках.***



*Магіляўчане ўважліва аглядаюць катлы, выпуск якіх распачаты на вытворчай базе Гомельскага аблаграпрамэнерга.*



*Зацікавіла ўдзельнікаў семінара і вакуумная ўстаноўка, змантаваная на жывёлагадоўчым комплексе.*



*Аператар устаноўкі для апрасавання кабелю Аляксей РАЧКОЎ. Цяпер штогод Гомельскае аблаграпрамэнерга вырабляе дзесяткі кіламетраў самага рознага кабелю.*



*Качагар Васіль САЛАЎЁЎ каля катла, які працуе на мясцовым паліве.*



**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі да друку спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

# Працаваць цяжка, але будучае турфірмаў бачыцца аптымістычным



**ХТО АРГАНІЗУЕ АДПАЧЫНАК?**

Самай папулярнай турыстычнай фірмай у Беларусі з'яўляецца «АлатанТур». Больш як восемдзесят працэнтаў удзельнікаў своеасаблівага сацыялагічнага даследавання чытацкіх меркаванняў, праведзенага ўжо трэці раз рэдакцыяй газеты «Туризм и отдых», сярод іншых турфірмаў краіны часцей называлі менавіта гэту. У дзесятцы лепшых таксама «Сакуб Халідэй», «Сані Трэвел», «Смок», «Знештурыст», «ЭкалогіяТур», «Беларускі Спадарожнік», «Беларустурыст», «ТопТур», «Белзамежтурыст». Далей ідуць «Блакітная птушка», «РампоТур», «КамканТур», «Весь свет», «Мінсктурыст», «Трэвел», «Экатур-6», «Тусан-Ваяж», «Белтур», «Экстратур», «Тэб-тур», «Белфер», «Свэлна», «Дабако-тур» і інш.

Дарэчы, як паказвае сацдаследаванне сярод турфірмаў, значная частка з іх працуе на турыстычным рынку пяць і болей гадоў (36,9 працэнта ад колькасці апытаных), 18,0 — тры гады, 22,6 — два гады і толькі 12,6 працэнта — не больш года. Нягледзячы на тое, што толькі ў кожнай пятай турфірмы (22,5 працэнта) прайшоўшы сезон быў паспяховым, абсалютная большасць іх (81,1 працэнта) ацэньваюць сваю будучыню аптымістычна.

Сярод цяжкасцяў, з якімі прыйшлося сутыкнуцца ў мінулым сезоне амаль усім турфірмам, называліся найбольш характэрныя: нізкая пакупная здольнасць людзей, а значыць, невялікая колькасць турыстаў; складанасці з канвертацыяй валюты, атрыманнем віз; высокая канкурэнцыя, але нізкая якасць дзейнасці канкурэнтаў, што дыскрэдытавала асобныя напрамкі турызму; высокая арэндная плата за офісы і вялікія расходы на рэкламу; нервовасць з увядзеннем «ваўчэрызацыі» і маючым адбыцца пераліцэнзаваннем... Толькі 2,7 працэнта фірмаў заявілі, што цяжкасцяў у іх не было.

**ДЗЕ АДПАЧЫВАЛІ ТУРЫСТЫ?**

Большасць з іх аддала перавагу Балгарыі (22,1 працэнта), Беларусі (12,9 працэнта), Украіне (10,9 працэнта), Чэхіі, Іспаніі, Турцыі, Францыі, Італіі, Кіпру, Грэцыі. Таму, што Балгарыя значна апярэдзіла іншыя краіны, ёсць свае тлумачэнні: амаль семдзесят працэнтаў турфірмаў запрашалі сваіх кліентаў адпачыць менавіта на балгарскім узбярэжжы Чорнага мора. Упершыню прапанаванне перавысіла попыт.

Па колькасці прапанаваных фірмамі тураў на другім месцы была Турцыя (46,8 працэнта), на трэцім — Іспанія (42,3 працэнта), на чацвёртым — Чэхія (33,3 працэнта).

Як сведчыць апытанне спецыялістаў турфірмаў, яны задаволены продажам пуцёвак у Чэхію (71,4 працэнта), у Турцыю, авія (64,4 працэнта), у Іспанію, аўтобусная (50 працэнтаў), у Венгрыю (47,4 працэнта). Цікава, што ўсяго 12,6 працэнта турфірмаў прапаноўвалі сваім кліентам адпачынак на турбазах, у санаторыях і дамах адпачынку Беларусі, але 79,2 працэнта з іх канстатавалі, што пуцёўкі прадаваліся добра ці вельмі добра. З гэтага можна зрабіць адназначную выснову: у мінулым сезоне Беларусь была самым паспяховым накірункам для турыстычных фірмаў краіны. Дарэчы, ён пацвярджае і тыя шматлікія публікацыі «Звязды», у якіх неаднойчы пісалася, што перспектывы ў развіцці турызму ў Беларусі вельмі вялікія, але для гэтага трэба стварыць высокую якасць турыстычнага прадукту, што, як і любая вялікая справа, патрабуе значных капіталаўкладанняў. Праўда, пры зацікаўленасці і цесным супрацоўніцтве дзяржавы і турфірмаў гэтыя выдаткі хутка акупіліся б.

**ДЗЕ ХОЧАЦЦА АДПАЧЫЦЬ?**

Самай жаданай краінай патэнцыяльныя спажыўцы пуцёвак для адпачынку назвалі Іспанію (15,8 працэнта). Яны хацелі б таксама адпачыць у Італіі (13,4 працэнта), Францыі (10,0 працэнтаў), Грэцыі (9,4 працэнта), Балгарыі (8,5 працэнта), на Кіпры (8,4 працэнта), Турцыі (7,8 працэнта), Егіпце (7,1 працэнта), Чэхіі (5,3 працэнта), Тунісе (3,4 працэнта). А вось, па меркаванню кіраўнікоў турфірмаў, самымі паспяховымі ў наступным сезоне будуць Турцыя (32,4 працэнта), Іспанія (30,6 працэнта), Балгарыя (29,7 працэнта). На чацвёртае месца па перспектыўнасці, як гэта ні дзіўна, выйшла Харватыя, на шостае — Чарнагорыя. Будзе папулярнай, як і заўсёды, Чэхія (пятае месца). Але ў той жа час, на думку прафесіяналаў турбізнесу, асуджаны на правал туры ў Балгарыю, а таксама дарагія эксклюзіўныя.

**ШТО ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, КАБ ТУРЫЗМ У БЕЛАРУСІ БЫЎ ПАСПЯХОВЫМ?**

Адказваючы на гэта пытанне, прадстаўнікі турфірмаў часцей за ўсё выказвалі адзіную просьбу да дзяржавы: не перашкаджаць працаваць. А яшчэ — прыняць Закон аб турызме, садзейнічаць развіццю інфраструктуры турызму ў Беларусі, вырашыць праблему з канвертацыяй валюты, палепшыць эканамічную і палітычную сітуацыю ў краіне, зменшыць падаткі, спрасціць працэс ліцэнзавання і г.д.

**Усе гэтыя лічбы і факты прыводзіліся на сустрэчы вядучых турысцкіх фірмаў, дзе ўшаноўваліся лепшыя, дзе выпрацоўваліся адзіныя падыходы да ўдасканалення турбізнесу ў Беларусі. Цікава было назіраць, як канкурэнты на рынку турыстычных паслуг разам працавалі, адпачывалі. Сустрэча ў чарговы раз засведчыла: нягледзячы на ўсе існуючыя праблемы, у турызму ў Беларусі добрыя перспектывы, ён будзе жыць. Значыць, прыхільнікам вандровак, экзотыкі, цёплага мора, а таксама цішыні і спакою можна спадзявацца на арганізацыю добрага адпачынку ў новым сезоне.**

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 41**
**М. Вялікі (Расія)**



**Белыя**: Крg3, Фg1, Лh7, Сh6, п. h2(5). **Чорныя**: Крh5, Фh8, Сa4, Кg6 (4). **Мат за два хады**.

**Заданне № 42**
**В. Кузьмічоў (Расія)**



**Белыя**: Крh8, Фс6, Лf2, Сb1, Кd1; пп: b3, c3, g2 (8). **Чорныя**: Крc1, п.c2 (2). **Мат за тры хады.**

**АДКАЗЫ І РАШЭННІ**

Прыводзім рашэнні конкурсных заданняў, якія былі апублікаваны ў газеце ў жніўні—кастрычніку г. г.

**№ 27.** 1. Кg3! ~ 2. Фd2+ Крe5 3. Фd6x 1... Крe3 2. Cd6! 1... Крe5 2. Фe4+

**№ 28.** 1. Лf7! ~ 2. 0-0-0 і 3. Лd8x 1... Крb8 2. 0-0-0 Крc8 3. Лh1; 1... g2 2. 0-0-0 g1 ~ 3. Л:g1.

**№ 29.** 1. Кh4+!

**№ 30.** 1. Кd5? f6! 2. Сc3 e5! 1. Кe8 ~ 2. Кc7 3. Кb5 1... f6 2. Сc3 e5 3. Кd6 e4. 4. К:c3 e3 5. К:e3 Сb3 6. Кc2 С:c2 7. Лb5 Сb3 8. Л:b3x.

**№ 31.** 1. Крb3? d1Ф! 1. d5? d1К! 1. f3! ~ 2. Кef2+; 1... d1Ф 2. d5!; 1... d1К 2. Крb3!

**№ 32.** 1. Лс4? Сa7! 1. a7! 1... Сc7 2. Лс4! Сb6 3. Кd7+; 1... Сd6 2. Лd3! Сc5 3. Кd7+; 2... ed 3. Л:d5+

**№ 33.** 1. c5! c2 2. Сf6+; 1... g2 2. Сd6+; 1... Крf4 2. Кg2+; 1... Крd4 2. Кc2+; 1... С:g5 2. Кf3+; 1... bc 2. Кd3+.

**№ 34.** а) 1. Лgg3 Крa5 2. Лg1 Крa4 3. Лgb1. б) 1. Лb1 b3 2. Лa8+ Крb4 3. Крd4.

**№ 35.** 1. К:f5! ~ 2. Кd6+; 1... Лd5 2. Лd4; 1... Сd5 2. Сc4! 1... Лd2 2. Кd4+

**№ 36.** 1... b1К+ 2. Крb3 Кd2+ 3. Крc2 Кe4 4. Крd3 Кc5+ 5. Крc4 Кd7 6. Крd5! Кg6! 7. Крe6 Кc5+ 8. Крf5 К:h4 9. Кр:g4 К~ 10. Кр:К.

Адказы на заданні даслалі наступныя ўдзельнікі конкурсу: Л. Ахрэм, А. Літвінаў, Я. Паноў і С. Сіляўкін (Мінск), І. Козел (Мазырскі раён), А. Кіслы (Узда), Ф. Рашэцкі і І. Цялятнікаў (Рагачоў), А. Сямчонак (Полацк), В. Лобан (Любанскі раён), В. Лук'янчык (Талачынскі раён).

Гэта нашы лепшыя рашальнікі, якія пасля цяжкага амаль гадавога марафону выйшлі на фінішную прамую. Пажадаем ім далейшых поспехаў!

**ПАВУЧАЛЬНАЯ ПАРТЫЯ**

Гэта партыя была згуляна беларускімі майстрамі на мемарыяле А. Сакольскага ў 1980 годзе.

**Я. Мачалаў — Б. Малісаў**
**Англійскі пачатак**

1. Кf3 Кf6 2. c4 c5 3. g3 d5 4. Сg2 Кc6 5. 0-0 e5 6. Фa4! Фd6 7. cd К:d5 8. Кc3 Кb6 9. Фd1 Сg4 10. h3 Сh5 11. d3 f6 12. Кe4 Фd 13. Сe3 Кd4 14. Лс1 Лс8 15. С:d4! ed 16. Фb3! f5 17. Кeg5 h6 18. Кe5 Фe7 19. Кe6 Фf6 20. К:f8! Кр:f8 21. f4 Лс7 22. Фb5 Фd6 23. b4! cb 24. Л:c7 Ф:c7 25. Ф:b4+ Крe8 26. Ф:d4 Крe7 27. Кg6+! С:g6 28. Ф:g7+ Сf7 29. Ф:h8 Кd7 30. Ф:h6 Кf6 31. Фg5 Фc5+ 32. Крh2 Фe3 33. Ф:f5 Сe6 34. Фe5 і чорныя здаліся.

ПОГЛЯД

# РАЗВАЖАННІ НА ДРУГІМ ПАВЕРСЕ ЦУМА ПРА ЭКАНОМІКУ

*НА ДРУГІМ ПАВЕРСЕ ЦУМА РАЗМЕШЧАНЫ АДДЗЕЛ «УСЁ ДЛЯ МУЖЧЫН». Нават гарэлку ў пацвярджэнне прадаюць. Праўда, толькі хворы стане тут яе купляць. У ЦУМ ідуць за прамтаварам.*

*Я раней любіў сюды забягаць па дарозе з работы. Не больш, як вы разумееце, двух разоў у месяц. У тыя магічныя дні, калі на службе выдаюць аванс і зарплату. Зараз гэта страціла сэнс. Зарплату і аванс, канешне, выдаюць. І нават амаль без спазнення. Іх памер робіць праблематычным паход у магазін.*

*Вы будзеце смяяцца, але «цумаўскія» цэны не прымусілі страціць прытомнасць. Падумаеш, зімовыя боты за 9 мільёнаў... Мазгі проста адмаўляюцца ўспрымаць гэты факт як рэальны. Гэта з вобласці нерэальнага.*

*Іншымі словамі, мы і цэны сталі існаваць у розных вымярэннях. Ніяк не сутыкаючыся і не ўзаемадзейнічаючы. Так бы мовіць, дзве субстанцыі: рэальная фізічна і створаная нашым мысленнем, грамадскім спосабам вытворчасці і гаспадарання. Мы жывём сваім жыццём, настолькі своеасаблівым, што толькі самі яго і разумеем.*

## 1.

Стаю перад аддзелам тэле- і радыётэхнікі і, само сабою, аўтаматычна ўключаецца «персанальны камп'ютэр». (Як паведаміў прадавец, за дзень не прададзена яшчэ ніводнага тэлевізара.)

Значыць, так. Тавар не прададзены, ЦУМ не атрымаў чаканага прыбытку, новую партыю «Гарызонтаў» ён не закупіць, «Гарызонт» таксама недаатрымае прыбытку, недаплаціць рабочым, яны не пойдуць у магазін за таварам і, адпаведна, не купяць яго, нейкія заводы будуць мець малы прыбытак ці не будуць мець яго ўвогуле, недаплацяць сваім рабочым, якія не пойдуць у магазін... і г. д. (гл. пачатак). Выстройваецца такі ланцужок.

Гэта, зразумела, у спрошчаным выглядзе. Але ў бытавым жыцці мы не карыстаемся складанымі эканамічнымі тэорыямі. Мы — толькі ахвяры іх прымянення ці непрымянення.

Перачытваю матэрыял, надрукаваны ў верасні. Сэнс аднаго з абзацаў: калі не спыніць друкарскі станок, то ў хуткім часе эканоміка Беларусі перастане існаваць як факт. Напісана было, прызнаюся, больш інтуітыўна, як прадчуванне. Яно збываецца на вачах, што зусім не радуе...

У аддзеле абутку хлопец прымярае боты. Адну, другую, трэцюю, чацвёртую пару.

— Ды кінь ты, Шурык... Пайшлі адсюль, — ные яго сябар.

— Ні фіга! — спакойна адказвае Шурык, — я гэтых казлоў дастану. Купіць не куплю, а нервы паматаю.

Увасабленне прадчування: пусты аддзел і хлопец, які хоча «дастаць гэтых казлоў». Незразумела, праўда, каго менавіта з «казлоў». Хаця дзесьці я яго разумею: наведванне магазінаў усё часцей выклікае сляпую нянавісць. Менавіта сляпую, бо супраць каго-небудзь канкрэтнага яна не накіравана. Проста нянавісць. Яна спее сёння літаральна ў кожным другім. Чым гэта скончыцца? Магчыма, банальнай п'янкай ці не менш банальнай бойкай, ці біццём дома посуду і жонкі.

## 2.

Тое, з якой паспешлівасцю і дзяжурным захапленнем у нас паведамляюць аб чарговых эканамічных дасягненнях, выклікае ў нармальнага чалавека падазрэнне.

Тое, што мы па росту ВУП (валавога ўнутранага прадукту) апярэджваем Польшчу, Чэхію, Венгрыю — гэта, прабачце, неяк... Неяк перабольшвае нашу здольнасць успрымаць гумар. Не трэба так жартаваць.

Дастатковая колькасць беларусаў бывае ў пералічаных краінах. Давайце спытаем іх. Спытаем «чаўнакоў», чаму па тавар яны едуць у Польшчу, а за машынамі — у Літву, Германію ці Галандыю? Нагадваючы бессмяротнага Казьму Пруткова, «калі на клетцы, дзе сядзіць леў, напісана «буйвал», не вер вачам сваім».

Можа быць, справа яшчэ ў тым, што народ па старой жа савецкай звычцы «не верыць газетам», а хутчэй, не звяртае ўвагі на прапаганду ўвогуле. Гэта, лічыцца, трэба, гэта атрыбут улады, але да рэальнага жыцця не мае адносінаў. Чалавек хутчэй верыць адсутнасці яек і масла, чым працэнтам.

А між іншым, па росту ВУП — мы бясспрэчныя лідэры ва ўсёй Усходняй Еўропе — 10 працэнтаў у параўнанні з тым жа перыядам мінулага года. Ёсць яшчэ адзін паказчык — ВУП на душу насельніцтва, ён больш рэальны. Тут у нас даволі сціпла — прыкладна 500 долараў на душу за 9 месяцаў. У Славеніі — 10 тысяч, Чэхіі — 6, Польшчы — 5 тысяч долараў.

Што гэта значыць? Тое, што эканоміка Беларусі ўсё яшчэ хутчэй жывая, чым мёртвая. Але стан яе здароўя крытычны. Што называецца, перадінфарктны. Калі 2/3 выробленага на заводах і фабрыках адразу ідзе на склад, то гэта не ёсць паказчык здаровай эканомікі. Здаровая — калі вырабілі і прадалі, вырабілі і прадалі і г. д., да бясконцасці. А калі вырабілі і не прадалі, то гэта нагадвае закупорку сардэчных сасудаў. Патрэбна аперацыя.

## 3.

Тое, што мы будуем прававую, дэмакратычную дзяржаву — агульнавядома. А хто-небудзь задумваўся, што стаіць за гэтымі словамі? Патлумачу: у прыватнасці, тое, што любая выканаўчая ці заканадаўчая ўлада падсправаздачная мне, табе, ім, нам.

Мы ў цэлым спачуваем тытанічным намаганням вывесці краіну з крызісу. Па канкрэтных пытаннях, праўда, ёсць сумненні.

Чым увогуле заканчваюцца тытанічныя намаганні? Напрыклад, павышэннем цэн на гарэлку (на ўсё астатняе цэны павышаюцца самі па сабе). Рэзкім абмежаваннем нормаў водпуску прадуктаў шырокага попыту. І інш.

Дазвольце, нам гэта знаёма. Не сцёрся ў памяці перыяд адноснага паляпшэння, калі для многіх праблема куплі аўто з разраду фантастычнай перайшла ў разрад практычнай. Гэта калі краіна на некалькі градусаў павярнула ў бок рынку. У тых, хто мог, з'явілася перспектыва. Хто не мог, той і сёння не можа.

Вынік? Меры, якія прымаюцца, — адміністрацыйныя меры. Па духу і сутнасці — гэта спроба падзяліць так, каб пакрысе хапіла ўсім.

Днямі падслухаў характэрную размову, прашу прабачэння, у лазні. Трое сярэдняга ўзросту мужчын эмацыянальна абмяркоўвалі між сабою апошнія рашэнні ў галіне эканомікі. Раптам падключыўся мужчына сталага веку. Прывёў прыклад з пасляваеннага жыцця: тады ўсім было — па картках, а для заможных — камерцыйныя магазіны. Вось бы, маўляў, і цяпер так зрабіць.

Ну што ж, каштоўная прапанова, рэкамендую прыслухацца. Хаця яна крыху спазнілася: так ужо фактычна і ёсць. Багатыя атаварваюцца ў іншых месцах.

## 4.

Лістапад адзначаны унікальным выпадкам у навейшай гісторыі Беларусі. Мэр аднаго з гарадоў забараніў прыватнікам падымаць цэны на яйкі, каўбасу, мяса, цукар вышэй, чым у дзяржгандлі. Усё роўна, скажам, што загадаць Прыпяці цячы ў Балтыйскае мора. (Пералічаныя прадукты ў тым горадзе зніклі ўвогуле і рашуча.)

Ну і што? Якраз па-бальшавіцку і нікольні не здзіўляе. Прагназірую: калі справы стануць зусім дрэнь, у чыёй-небудзь «светлай» галаве з'явіцца ідэя харчатрадаў. І гэта будзе лагічна.

Лістапад жа адзначаны яшчэ адной эпахальнай падзеяй: наша сярэдняя зарплата дасягнула (ці апусцілася?) прыкладна 30 долараў у месяц. Свайго роду апафеоз вяртання ў мінулае. 30 долараў якраз хопіць на не самыя лепшыя зімовыя боты. Праўда, больш ні на што не хопіць.

Па гэтай прычыне насельніцтва будзе вымушана даношваць старыя боты, а ўсе грошы пускаць на прадукты. Калі пашанцуе іх знайсці. Цікавіць толькі адно: дзе той апошні прыпынак, за якім стаіць шлагбаум? («Кто-то скупо и четко отсчитал нам часы...»)

Рана ці позна рынак прыйдзецца лібералізаваць. Лепш, канешне, раней. Праўда, тады пачнецца сапраўдная «шокавая тэрапія», якой мы яшчэ не бачылі.

Эканоміку працягваюць напампоўваць эмісійнымі грашамі. І з кожным новым надрукаваным мільярдам будзе набліжацца прыход бабулі з касой па прозвішчу Гіперінфляцыя. Ну а за ёю пачакаем дзядзьку Калапса з сякерай у валасатых руках. Гэта калі ніхто ні з кім не зможа расплаціцца і ўсё ў нашай краіне на пэўны час замрэ.

Мы ўсё шукалі і, на жаль, знайшлі свой, «трэці» шлях. Цяпер відаць: ён заключаецца ў спалучэнні неспалучальнага. Улады і насельніцтва сыходзяцца ў галоўным: хочацца жыць заможна. Адрозненне, бадай, адно — насельніцтву ў прынцыпе ўжо «да лямпачкі», якімі метадамі будзе дасягнута заможнасць. Ва ўладных структурах пераважаюць рамантыкі сацыялістычнай ідэі, крыху сапсаваныя рыначнай эканомікай. Узнікае супярэчнасць, без вырашэння якой грамадства не будзе мець ні міру, ні вайны. Не кажучы пра яйкі з каўбасой.

«Трэці шлях вядзе ў трэці свет», вобразна выказаўся бацька чэшскай рэформы Вацлаў Клаус. Мы, хачу запэўніць, там ужо адной нагой. А на гадзінніку — без пяці дванаццаць.

Цэйтнот.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# АДЧЫНІЎ ХАЛАДЗІЛЬНІК...

Прачнуўся ўначы, адчыніў халадзільнік. Божачка, я не дома. Повен халадзільнік гастраноміі. Тут табе і каўбаска, і выразка, і нават паляндвіца вэнджаная. Гэта я ў швагра заначаваў. Ён на мясакамбінаце працуе.

Прачнуўся ўначы. Смажыць. Адчыніў халадзільнік. Зноў я не дома, а ў гасцях. Повен халадзільнік малочных прадуктаў. І сыры, і масла, і смятана. І ёгурты з кефірамі. У стрыечнага брата, значыць. Ён там загадчык вытворчасці. А можа, тэхнолаг. Не памятаю.

Прачнуўся ўначы. Адчыніў халадзільнік — не дома. І чаго гэта мяне так часта ў госці цягне? Ага, тарты некранутыя, піражныя, яшчэ нейкае печыва. І каньякі. Чаму гэта ў кандытарскай вытворчасці так шмат каньяку прымяняюць? Трэба будзе ў пляменніцы спытацца.

Прачнуўся. Спецыяльна да халадзільніка хутчэй. Дзе я? Дома...

І не павуцінне ў ім — не падумайце. Мой халадзільнік таксама падключаны і таксама паўнюткі. Я ў ім леташні снег захоўваю. Ведаеце, такое ў мяне хобі. Люблю на леташні снег глядзець. Дастаю з халадзільніка слоік. Стаўлю перад сабою і ўспамінаю. Гадзінамі магу глядзець.

Дзе я працую? Дык а сваякі нашто?

**Алесь КАСЦЕНЬ.**



**Выпуск № 41 (429)**

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

# ЖЫВЁЛА АТРУЦІЛАСЯ

**Мы не раз сцвярджалі, што ўсе захворванні хатняй жывёлы павінен лячыць спецыяліст. Цяпер гэта не вельмі вялікая праблема, бо кожны калгас і саўгас мае не аднаго ветурача. Але часта хваробы развіваюцца так імкліва, што пакуль знойдзеш таго ўрача, жывёліна можа «адкінуць капыты». Таму гаспадар павінен ведаць, што рабіць найперш.**

Наш час інтэнсіўнага развіцця сельскай гаспадаркі. Мы хочам збіраць з градкі як мага большы ўраджай. Прымяняем шматлікія хімічныя прэпараты пад корань і па лісцях. Асобныя зусім бяспечныя. Але ўсё, што накіравана супраць хвароб раслін і шкоднікаў, — яды. Часта вельмі небяспечныя. Скажам, карова «паспытала» апетытны ліст капусты, які апрацаваны хімпрэпаратам супраць вусеняў. Ці «лізнула» калійнай солі. Бывае, нават трава вядзе да атручэння.

Тэрміны, калі становіцца відавочным дзеянне хімрэчываў, неаднолькавыя. Шмат глынула — і вынікі відаць праз нейкую гадзіну-другую. Прыметы такія: моцнае выдзяленне сліны, болі і колікі ў жываце (не дае нават дакрануцца рукою), сутаргі, расшырэнне зрэнак, нервовы неспакой ці поўная прыгнечанасць. Амаль заўсёды падымаецца тэмпература. Як правіла, імкнецца легчы, бо ў нагах адчуваецца слабасць.

Дзеянні гаспадара наступныя. Самае важнае — паслаць за спецыялістам. А пакуль той завітае, з дапамогай зонда і падручных сродкаў паспрабаваць хоць бы частку атруты вывесці з арганізма, не даць хімрэчывам усмактацца ў кроў. А найлепшы рвотны сродак — чамярыца (карані і карэнішчы). Іх абавязкова нарыхтоўваць восенню. На кожную дарослую карову даваць 5—12 грамаў, авечкам — 1—4, свінням — усяго 1-2 грамы. Яшчэ можна выкарыстоўваць спецыяльныя медыцынскія прэпараты (анамарфін ці верацін), сульфат натрыю ці сульфат магнію (глаўберава і англійская соль).

Вельмі надзейныя вынікі ад вугалёгкай драўніны, белай гліны. Яны вельмі добра ўсмоктваюць яды, становяцца бар'ерам на шляху гэтых ядаў у кроў.

Звычайна яды ўспаляюць страўнік, кішкі і ўвогуле ўнутраныя органы. Усё можна палепшыць, калі даваць бялковыя і слізістыя рэчывы — малако, бялковую ваду (бялок аднаго курынага яйка на шклянку чыстай вады), крухмальны клейстар і г.д. Выдатны вынік ад каранёў алтэя лекавага. Яго даюць у такіх дозах: каровам — да 50—100 грамаў, авечкам — да 50, а свінням — 5—25 грамаў. Яшчэ можна даць лакрычнік: каровам да 100 г, авечкам — да 15, а свінням — да 10 грамаў. На вёсцы ёсць насенне лёну. Гэта таксама лекі. Каровам — да ста грамаў, авечкам — да 50, а свінням — да 25 грамаў на адну асобіну.

Калі ж назіраецца павышаная нервовая напружанасць, то мэтазгодна даць адвару кары вярбы і дуба ў роўных долях. Каровам — 25—50 г, авечкам — 7—10, свінням — 5—10 г. Яшчэ добры вынік ад марганцоўкі — 5 грамаў на вядро вады.

Часта прыметы атручэння гаспадары вызначаюць з вялікім спазненнем. А гэта значыць, што яды трапілі ў кроў і пайшлі па ўсім целе. Спыніць гэты працэс ці затармазіць яго могуць вадкія настоі з вялікай колькасцю мачагонных сродкаў — бузіны чорнай, брусьнічніку, лопуху, ядлоўцу і патагонных (бяроза, мацярдушка звычайная, падбел, рамонак).

Усё астатняе выканае ветурач. Часта ён уводзіць лекі, якія стымулююць дзеянне нервовай сістэмы, сэрца, органаў дыхання і інш.

*ХАТНЯЯ АПТЭКА*

# АРАЛІЯ АМАЛОДЖВАЕ ЧАЛАВЕКА

**На Беларусі расце дрэва-куст — аралія маньчжурская. Усыпана калючкамі. У некаторых гаспадароў дрэўцаў да дзесяці. Размешчаны яны ўздоўж плота. Абавязкова на сонечным месцы. Глебы лёгкія, добра запраўленыя перагноем — вядро на 3 кв. метры.**

Расліна размнажаецца ў асноўным насеннем. Яго здабываюць з плодзіка-касцянкі. Абавязковая стратыфікацыя на працягу трох-чатырох месяцаў. Гэта проста зрабіць у зямлі. Восенню пасеялі насенне пад зіму. Да вясны яно пройдзе ўсе стадыі падрыхтоўкі і ўзыдзе (недзе працэнтаў 40—70).

У лекавых мэтах нарыхтоўваюць карані дрэўцаў, узрост якіх 5—12 гадоў. Аперацыя праводзіцца глыбокай восенню ці ранняй вясной (нечым падобная на копку хрэну). Карані чысціць ад зямлі, мыць. Сушыць у цяньку пры добрай вентыляцыі. Можна і ў печы пры тэмпературы 60 градусаў.

Карані павінны мець такія памеры: у дыяметры — да трох сантыметраў, даўжыня адрэзка — да 10 см. Захоўваюць лекавыя якасці да 2 гадоў.

У энцыклапедыі Беларусі адзначана, што дзейнічаюць лекі з араліі як жэньшэнь. І гэта сапраўды так, бо хворыя лепш спяць, іх працаздольнасць прыкметна ўзрастае, паляпшаецца апетыт. А яшчэ спыняюцца галаўныя болі, меншая стамляльнасць. Але калі ў вас хранічная (доўгія гады) бяссонніца, калі вельмі скача ціск, павышаная ўзбуджальнасць, то ад араліі лепш адмовіцца. Абавязкова атрымаць кансультацыю ў доктара.

У лячэбных мэтах рыхтуюць настойку каранёў на спірце. На адну частку каранёў — пяць частак спірту. Настойваць да паўмесяца. А прымаць па 30—40 кропель 2-3 разы на дзень на працягу месяца. Пасля — перапынак да трох тыдняў і зноў лячэнне. Лепш дзейнічае на арганізм людзей, у якіх паніжаны ціск, дэпрэсія, частыя недамаганні фізічнага і разумовага кшталту.

# ХІМІЯ КАХАННЯ

Мой закаханы дзед, каб дабіцца ўзаемнасці бабулі, падарыў ёй... чамадан шакаладак. Салідны такі чамаданішча (ён да гэтага часу захоўваецца ў сям'і) быў напоўнены духмянымі пліткамі да самых краёў...

Акрамя рамантыкі, ёсць у «шакаладнага» кахання навуковая, хімічная, падаплёка, якую мае родныя пазналі інтуітыўна. Урачы Нью-Йоркскага псіхіятрычнага інстытута даказалі, што рэчыва, якое ўтрымліваецца ў вялікай колькасці ў шакаладзе — фенілэтыламін — нараджае каханне і сексуальную цягу. Калі велічыня фенілэтыламіну ў клетках мозгу рэзка павялічваецца, чалавек здольны раптоўна ўпасці ў стан закаханасці. Калі дозу павысіць яшчэ, яна гарантуе максімум задавальнення ад інтыму. Наадварот, сіндром разбітага сэрца назіраецца пры змяншэнні фенілэтыламіну. Людзі, якія пакутуюць ад непадзельнага кахання, часта ў якасці кампенсацыі з прагнасцю ядуць шакалад.

Але не толькі салодкія пліткі адказныя за наша асабістае жыццё. У гіпаталамусе мозгу функцыянуе цэнтр сексуальнай актыўнасці. І эфектыўнасць яго работы ў многім залежыць ад таго, што мы ядзім. Атрымліваецца, што любоўная энергія — прадукт узаемадзеяння і распаду снедання, абеду, вячэры і шматлікіх перакусаў.

Канчатковая «рэакцыя кахання» робіцца ў галаве, таму мозг і лічыцца самым галоўным палавым органам. Пазмагацца за сваё каханне, наблізіцца да жаданага ідэала ўсё ж варта. Так лічыць Бернар Йенсен, вядомы ў свеце спецыяліст па лячэбнаму харчаванню, які на практыцы вывучаў узаемаўплыў ежы і сексу.

Па Йенсену выходзіць, што многія людзі быццам спецыяльна сядзяць на дыеце, якая выпрацоўвае адмоўныя эмоцыі, нараджае няшчасці ў каханні і праблемы ў сексе. Для пачатку доктар прапануе **выключыць з меню:**

- **алкаголь**, таму што ён разрушае тэстастэрон — мужчынскі палавы гармон (**нікацін**, дарэчы, таксама сексу перашкода, таму што пагаршае кровазабеспячэнне палавых органаў, прытупляе інтымныя адчуванні, асабліва ў жанчын);
- **цукар**, які садзейнічае лёгкай дэпрэсіі, нежаданню блізкасці (замяніце яго мёдам);
- **тлустую і смажаную ежу**, якая закупорвае артэрыі, пагаршае забеспячэнне мозгу кіслародам.

## *ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

Штодзённы паўтаракілаграмовы харчовы рацыён павінен складацца з 6 частак агародніны, 2 частак садавіны, 1 часткі крухмалу, 1 часткі бялку. Няхай ежа на 60 працэнтаў будзе сырой, а на астатнія 40 — варанай або паранай.

Паспрабуйце падкарэкціраваць і свой «мінеральны» тэмперамент па сістэме доктара Йенсена.

**Кальцый дае жыццёвую энергію**. Калі яго не хапае ў эндакрынных залозах, паніжаюцца цяга і патэнцыя.

Такіх заган няма ў людзей «кальцыевага» тыпу, якія вызначаюцца шырокімі касцямі, валявым характарам. Яны з павышанай сур'ёзнасцю ставяцца да сексу, які ў іх непаспешлівы, абдуманы, выніковы.

Каб папоўніць запас кальцыю, **лепш есці ёгурт, сыр, рыбу, сырыя арэхі і семя, цэльныя крупы, капусту, сычавіцу, цыбулю і пастарнак.**

**Крэмній валодае магнетычнай сілай**. Ён надае чалавеку прываблівасць, мяккасць — яго валасам, эластычнасць — скуры.

Для «крэмніевага» тыпу людзей характэрныя хуткасць, грацыёзнасць, высокі рост, стройная фігура. Яны адкрытыя свету, прыемныя ў зносінах, аптымістычныя.

Хочаце стаць сексуальным магнітам — **ешце брусельскую капусту, цэльныя крупы, карычневы (неачышчаны) рыс з кароткімі зярнятамі.**

**Натрый — элемент юнацтва**, які надзяляе асаблівай эратычнай пластыкай.

«Натрыевы» чалавек звычайна стройны, невысокі, вынослівы. Ён выразны ў жэстах, міміцы, страсны. **Піце булён з цялячых суставаў, казінае малако. Жуйце сельдэрэй, але ні ў якім разе не захапляйцеся соллю — хоць яна і натрыевая, аднак шкодная.**

**Калій усяляе веру** ў сваю непераўзыдзенасць. Ён неабходны для выпрацоўкі гармонаў. Калі вам не хапае калію, вы вялыя.

Калій **добра засвойваецца з соі, сухафруктаў, бананаў, пшанічнага вотруб'я, пятрушкі, шпінату, авакада.**

**Недахват жалеза** ў крыві заўсёды **суправаджаецца стратай усялякага апетыту.**

Тут **дапаможа печань жывёлы, рыба, яечны жаўток, зеляніна, чорныя парэчкі, «п'яная» вішня, разынкі, абрыкосы.**

**Сера — сродак ачысткі** сексуальнай сістэмы ад забруджванняў. Яна прадухіляе старэнне скуры, падтрымлівае маладосць.

Хочаце дабавіць сабе чуллівасці — **ешце цыбулю, часнок і чарамшу (толькі не перад спатканнем), каляровую капусту, кабачкі, інжыр, радыску і рэпу.**

**Фосфар адказны за мудрасць і вытанчанасць.**

**Лепшыя крыніцы фосфару — печань траскі, марская капуста, сырыя кісламалочныя прадукты, вараныя (але не тлустыя!) яйкі.**

Напэўна, нельга прымаць тэорыю Йенсена літаральна і прамалінейна: пасядзеў месяц на агародніне і рыбе — зрабіўся секс-бомбай. Але рацыянальнае зерне ў гэтай тэорыі яўна ёсць, калі на працягу 57 гадоў у Йенсена не было адбою ад пацыентаў.

**Галіна КАЧУК.**

*«Работница».*

# «НОВАЙ ЗЯМЛІ» — 75

**Юбілеі бываюць розныя — «чалавечыя», «гарадскія» і «вясковыя», гадавіны прадпрыемстваў і ўстаноў, юбілеі вялікіх твораў. Вось чаму і слынную «Новую зямлю» Якуба Коласа Беларусь ушаноўвае з гонарам. Сёлета з часу выхаду яе ў свет споўнілася 75 гадоў. Гэтай падзеі прысвячаўся вечар, што прайшоў у Доме літаратара.**

Пра веліч, эпахальнасць твора гаварылі першы сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, літаратуразнавец, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, заслужаны артыст рэспублікі, выканаўца ролі Міхала ў тэлефільме «Новая зямля» Анатоль Жук. Пра сваю працу над вобразам Ганны ў фільме расказала заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.

На вечары гучалі ўрыўкі з паэмы, музычныя творы: арыю Ганны з оперы «Новая зямля» выканала заслужаная артыстка рэспублікі Нагіля Галеева, песню «Мой родны кут» — заслужаны артыст Іван Краснадубскі.

Да слёз пацешыў публіку вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Язэп Гарэцкі. Ён памайстэрску прачытаў вясёлы ўрывак з раздзела «Дзядзька-кухар».

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская гаварыла пра лёс песняровых мясцін на яго радзіме, сын народнага паэта Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч запыніў увагу прысутных на бытаванні «Новай зямлі» ў Коласавай сям'і і сярод знаёмых.

Завяршыў вечар мілагучнымі беларускімі песнямі (народнымі і аўтарскімі) ансамбль «Менскі гармонік» пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.

Сядзелі дый слухалі вечароўцы і, пэўна, успаміналі шмат якія паэмныя радкі, як і гэтыя, што былі змешчаны ў запрашальным білеце:

*Малюнкі родныя і з'явы!*
*Як вы мне любы, як цікавы!*
*Як часта мілай чарадою*
*Вы ўстаяце перада мною!*
*Жыві ж, наш край!*
*Няхай надзея*
*Гарыць у сэрцы і мацнее,*
*Што хоць не мы,*
*дык нашы дзеці*
*Убачаць цэльным*
*цябе ў свеце!*

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

*ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ*

# ПОМНІК ГІНЕ НА ВАЧАХ...

**На нашай зямлі няшмат засталося старажытных помнікаў архітэктуры. Адны гадамі рэстаўруюцца, другія чакаюць сваёй чаргі. А трэція, дастаяўшы да нашага часу, гінуць літаральна на вачах, без усялякіх войнаў і катаклізмаў. Сярод іх і палац XVIII стагоддзя ў мястэчку Жалудок Шчучынскага раёна. А трапіла я туды вось пры якіх абставінах.**

Як старшыні беларуска-бельгійскага таварыства, якое існуе пры Доме дружбы, мне давялося нядаўна суправаджаць грамадзянку Бельгіі, ураджэнку Беларусі, на яе малую радзіму.

Ізабэла Чацвярцінская да 39-га года жыла ў мястэчку Жалудок, потым сям'я, зведаўшы шмат выпрабаванняў, эмігрыравала, і нашчадкі старажытнага роду рассеяліся па свеце.

У 1993 годзе пані Чацвярцінская наведала родны Жалудок, дзе захаваўся прыгожы радавы маёнтак. Яна неаднаразова дастаўляла для мясцовай бальніцы, якая будавалася, гуманітарную дапамогу.

Палацавы комплекс захоўваўся ў больш-менш прымальным стане, пакуль там была размешчана вайсковая часць. Але часць з'ехала, і гаспадаром стаў лідскі завод «Конус». Вытворчасць у маёнтку наладзіць не ўдалося, а як яго ахоўвалі і даглядалі, мы пабачылі падчас нядаўняга прыезду.

Палац XVIII ст., які ўваходзіць у рэестр культурна-гістарычных помнікаў рэспубліканскага значэння, аказаўся ў жахлівым стане. Праз выбітыя шыбы ў будынак трапляе дождж і снег, з унутранага рыштунку выдрана ўсё, што можна было выдраць.

Мясцовы краязнаўца У. Глаз біў трывогу, раённая газета і абласное тэлебачанне таксама не засталіся абыякавымі. Несумненна, пра стан помніка архітэктуры ведалі і мясцовыя, і раённыя ўлады. Пракуратура нібыта заводзіла справу, але вынікі яе невядомыя. Між тым, пры нястачы сродкаў палац можна было калі не аднавіць, то хаця б закансерваваць да лепшых часоў.

Тое, што зроблена за апошнія гады з гістарычным збудаваннем у Жалудку, — гэта, лічу, сапраўднае злачынства.

Праз газету хацела б звярнуцца да ўрада, да камісіі па культуры Нацыянальнага сходу, да Фонду культуры, іншых арганізацый і ўстаноў, якія маюць дачыненне да захавання спадчыны: прадухіліце гібель старажытнага палаца! Там можна было б размясціць Цэнтр міласэрнасці ці санаторый для дзяцей. Няхай бы помнік служыў людзям, радаваў позірк нашых дзяцей і ўнукаў.

**Тамара АНТАНОВІЧ,**
**урач шпіталя для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 101.039. Індэкс 63850.
Зак. № 7091.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12